## ПАРЛАМЕНТАРЫІ БЕЛАРУСІ ВЫЛЕЦЕЛІ Ў БАЛГАРЫЮ

У Сафію па запрашэнню парламента Балгарыі 2 сакавіка адправілася афіцыйная дэлегацыя Нацыянальнага сходу Беларусі. Яе ўзначальвае Старшыня Савета Рэспублікі парламента Павел Шыпук.

Беларускія парламентарыі прымуць удзел у святкаванні 120-годдзя вызвалення Балгарыі ад асманскага прыгнёту. Візіт прадоўжыцца да 4 сакавіка.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## АГРАРНІКАЎ АБКЛАЛІ ПАДАХОДНЫМ ПАДАТКАМ

**На пачатку 1998 года беларускіх аграрнікаў чакаў непрыемны сюрпрыз — увядзенне падаходнага падатку. Па каментарый «Звязда» звярнулася ў Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.**

Як паведаміў адзін з вядучых спецыялістаў міністэрства, пытанне аб увядзенні падаходнага падатку для працаўнікоў вёскі ўзнімалася ўрадам на працягу некалькіх апошніх гадоў. Нарэшце гэта новаўвядзенне было прынята ў заканадаўчым парадку і пачало дзейнічаць са студзеня 1998 года. Для працаўнікоў калгасаў і саўгасаў, за якіх раней гэты падатак плацілі іх гаспадаркі, такія выдаткі сталі даволі адчувальнымі. І гэта натуральна, бо сярэдні заробак у аграрным сектары, згодна са статыстыкай, складае 47 працэнтаў ад сярэдняга заробку ў прамысловасці. Каб змякчыць удар па амаль пустой кішэні вяскоўцаў, як выйсце прапаноўваўся такі ход — з пачатку года павысіць ім заробак на памер падатку. Аднак тут узніклі пэўныя складанасці.

Многія спецыялісты сельскай гаспадаркі увядзенне падаходнага падатку для аграрнікаў лічаць няўдалым ходам і характарызуюць гэта як збой. Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання ў сваю чаргу збіраецца працаваць у рамках закона.

**Сяргей ПРОТАС.**

### ТОЛЬКІ ФАКТ

**• Сярэдняя працягласць жыцця *алімпійскіх чэмпіёнаў* — 67 гадоў. Рэкорд свету па працягласці жыцця сярод алімпійскіх чэмпіёнаў належыць Леанелу Стукелю, якому зараз 98 гадоў.**

**• У гэтым годзе ў рэспубліцы ў *працаўладкаванні* будуць мець патрэбу 350.900 чалавек. Увогуле на падтрымку прадпрыемстваў і арганізацый, якія ствараюць новыя працоўныя месцы, Дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці мае намер выдзеліць 599,5 мільярда рублёў.**

**• Нізкі *ўзровень жыццезабеспячэння*, паводле даных сацыёлагаў, непакоіць насельніцтва краіны больш, чым наступствы чарнобыльскай катастрофы.**

**• У Расіі пры нясенні гарнізоннай і каравульнай службы ва *Узброеных Сілах загінуў 101 чалавек:* апошнім часам там пачасціліся выпадкі гібелі ваеннаслужачых у выніку наўмысных забойстваў, неасцярожнага абыходжання са зброяй і самазабойстваў.**

## БЕЛАРУСЫ І СІРЫЙЦЫ БУДУЦЬ БОЛЬШ ВЕДАЦЬ АДЗІН АБ АДНЫМ

Цэлы блок міжурадавых пагадненняў будзе падпісаны ў час афіцыйнага візіту Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў Сірыйскую Арабскую Рэспубліку, які адбудзецца на наступным тыдні. Яму папярэднічала вялікая падрыхтоўчая работа. У прыватнасці, з афіцыйным візітам Сірыю наведаў старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку нашай рэспублікі Міхаіл Падгайны.

«У ходзе гэтага візіту, — адзначыў ён у інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛТА, — абмяркоўваўся праект пагаднення паміж урадамі Рэспублікі Беларусь і Сірыйскай Арабскай Рэспублікі аб супрацоўніцтве ў галіне інфармацыі. Адбыліся перагаворы з міністрам інфармацыі Сірыі Мухамедам Сальманам. Па ўсіх артыкулах гэтага дакумента дасягнута прынцыповая згода. У ім, у прыватнасці, агаворана ўзаемадзеянне інфармацыйных агенцтваў дзвюх краін, абмен навінамі, якія закранаюць палітычную, эканамічную і культурную сферы дзейнасці.

**БЕЛТА.**

## ЗЛАЧЫННЫЯ ДЗЕЯННІ БУДУЦЬ АТРЫМЛІВАЦЬ НАЛЕЖНУЮ АЦЭНКУ

**Прэс-цэнтр Пракуратуры Рэспублікі Беларусь зрабіў паведамленне для прэсы ў сувязі з тым, што «ў асобных недзяржаўных выданнях з'явіліся публікацыі, змест якіх мае мэту навязаць чытачам думку аб незаконным прыцягненні да крымінальнай адказнасці А. Шыдлоўскага і В. Лабковіча».**

Прэс-цэнтр паведаміў, што крымінальная справа па абвінавачанню А. Шыдлоўскага і В. Лабковіча расследавалася пракуратурай Стаўбцоўскага раёна і пасля завяршэння следства з абвінаваўчым заключэннем была накіравана ў суд.

Судовай калегіяй па крымінальных справах Мінскага абласнога суда Шыдлоўскі і Лабковіч асуджаны па ч. 2 арт. 201 (злоснае хуліганства), арт. 186 прым.2 (апаганенне дзяржаўных сімвалаў), ч. 2 арт. 225 (наўмыснае знішчэнне ці пашкоджанне гісторыка-культурных каштоўнасцяў) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь да аднаго года шасці месяцаў пазбаўлення волі: Шыдлоўскі — з адбыццём пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму, да непаўналетняга Лабковіча прыменены арт. 44 прым. 1 КК Рэспублікі Беларусь і выкананне прыгавору адтэрмінавана на 2 гады.

Сабраныя ў ходзе следства доказы ўчыненых названымі асобамі злачынстваў знайшлі сваё пацвярджэнне ў судзе. А. Шыдлоўскі і В. Лабковіч прызнаны вінаватымі ў тым, што, «дзейнічаючы ўзгоднена, з асаблівай дзёрзкасцю і цынізмам, ноччу 2 жніўня 1997 года наўмысна пашкодзілі помнікі гісторыі і архітэктуры ў г. Стоўбцы, а таксама нанеслі фарбай зневажальныя надпісы з нецэнзурнымі выразамі на фасадах будынкаў дзяржаўных установ і арганізацый, што закранае гонар і годнасць грамадзян, грамадскую мараль».

Працягваючы хуліганскія дзеянні, гаворыцца далей у паведамленні, Шыдлоўскі і Лабковіч сарвалі з флагштока, устаноўленага на будынку райвыканкама, Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь і прымацавалі бела-чырвона-белыя палотнішчы і прадметы, што імітуюць выбуховыя ўстройствы. Сваімі дзеяннямі нанеслі матэрыяльны ўрон на суму амаль 6 млн. рублёў.

«Сцвярджэнні шэрагу недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі аб палітычнай падаплёцы гэтай справы кан'юнктурныя і выказваюць погляды пэўных палітычных колаў, якія імкнуцца зняславіць дзейнасць судовых і праваахоўных органаў, аказаць ціск на следства і суд з мэтай вызвалення гэтых асоб ад крымінальнай адказнасці», — падкрэслена ў паведамленні.

Прэс-цэнтр Пракуратуры Рэспублікі Беларусь заявіў, што і ў далейшым злачынныя дзеянні, незалежна ад асоб, якія іх учынілі, будуць атрымліваць належную ацэнку, а вінаватыя — несці адказнасць згодна з Законам.

**БЕЛТА.**

# ПАРЛАМЕНТАРЫІ СНД І «ЧАЦВЁРКІ» РОБЯЦЬ НАДЗЁННЫЯ СПРАВЫ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Падзяліліся меркаванні парламентарыяў і па прапанаванай Грузіяй рэзалюцыі аб сітуацыі з мірным працэсам ў Абхазіі і вяртанні туды бежанцаў, якіх налічваецца каля 500 тысяч. Прадстаўнікі Расіі і Беларусі адмовіліся галасаваць за праект, у якім ускосна асуджаўся ў замарожванні міратворчых працэсаў толькі абхазскі бок. Прадстаўнік расійскай Дзярждумы дэпутат Георгій Ціханаў зазначыў, што ёсць у прамаруджванні мірных працэсаў у гэтым застарэлым канфлікце і віна Тбілісі, і прапанаваў Грузіі правесці рэферэндум у Абхазіі. За гэта ад прадстаўніка Грузіі ён атрымаў абвінавачанне ва ўмяшанні ва ўнутраныя справы Грузіі і ў тым, што «Расія не хоча руху мірнага працэсу». Кампраміс нейкім чынам быў знойдзены, аднак гэтыя прыклады паказваюць, што старыя балячкі ў СНД загойваюцца вельмі складана.

Пэўную негатыўную ацэнку Я. Строева і іншых членаў Савета МПА атрымала практыка стварэння вялікай колькасці мадэльных законаў, якія нікога ні да чога не абавязваюць. Такіх законаў у рамках МПА СНД ужо прынята каля 120, яшчэ 18 рыхтуецца на наступнае пленарнае пасяджэнне ў чэрвені, і гэтая колькасць не адпавядае рэальнаму стану спраў у Садружнасці. На думку Я. Строева, паспешлівасць і бессістэмнасць у гэтай рабоце часта толькі перашкаджаюць агульнай справе, таму ён прапанаваў скараціць колькасць гэтых мадэльных законаў і выказаўся за тое, каб у перспектыве перайсці да прыняцца агульных для краін СНД законаў па мытных, падатковых і іншых пытаннях важнага ва ўзаемасупрацоўніцтве кшталту.

### ...ЁСЦЬ ЦЯЖКАСЦІ І Ў «ЧАЦВЁРЦЫ»

Пасяджэнне бюро Міжпарламенцкага камітэта «чацвёркі» нечакана зацягнулася. Праблемай стала пытанне аб старшыні Міжпарламенцкага камітэта. Як высветлілася пазней, разглядаліся 2 кандыдатуры: Старшыні Савета Рэспублікі Паўла Шыпука і Старшыні парламента Кіргізіі Абдыганы Эркебаева. Паколькі да таго кіраваў Міжпарламенцкім камітэтам прадстаўнік Кіргізіі і поўны тэрмін ён яшчэ не адбыў, то было вырашана да кастрычніка гэтага года пакінуць гэтую пасаду за Кіргізіяй. Такім чынам, на пасяджэнні МПК яго старшынёй быў абраны А. Эркебаеў.

Шмат інфармацыі аб цяжкасцях станаўлення мытнага саюза прагучала ў дакладзе старшыні Інтэграцыйнага камітэта гэтага міждзяржаўнага ўтварэння Н. Інсігарына.

— Знайсці ўзгодненыя рашэнні па мытных тарыфах вельмі няпроста. Казахстан з'яўляецца вытворцам збожжа і мяса, Беларусь — машынабудаўнічай прадукцыі, Расія — энерганосьбітаў і прамысловай сыравіны, і кожны хоча абараніць сябе і мае свой погляд на велічыню тарыфаў. Тым не менш, да канца года мы мяркуем закончыць гэтую работу і ва ўсіх чатырох дзяржавах будзе агульны мытны тарыф. Зацверджаны базавы пералік падакцызных тавараў, якія вырабляюцца і ўвозяцца на тэрыторыю мытнага саюза. Расія ж прымяняе адзіныя стаўкі на такую прадукцыю па 22 найменнях, Беларусь — па больш чым 50 найменнях на імпартуемую і 22 на вырабляемую прадукцыю, Казахстан адпаведна — 46 і 22, Кіргізія — 23 і 16. Відавочны разнабой, і таму тут патрабуецца выраўноўванне як па пераліку, так і па велічыні ставак. Гэта вельмі складаная праца, але ўрады нашых краін будуць імкнуцца да канца гэтага года выйсці на уніфікацыю акцызнай палітыкі. Пасля далучэння Кіргізіі да саюза яна так і не выканала абавязацельстваў па ўзгадненню тарыфнай палітыкі. Урад Кіргізіі тлумачыць гэта тым, што яму перашкаджае іх нацыянальнае заканадаўства... Без узгаднення з партнёрамі па саюзу часта ў асобных краінах прымаюцца законы і іншыя нарматыўныя акты ў галіне мытнай і падатковай палітыкі. Напрыклад, Расія мяркуе павялічыць падатак на дабаўленую вартасць (ПДВ) з 20 да 22 працэнтаў, Казахстан увёў ПДВ па месцы спажывання прадукцыі... І такіх прыкладаў шмат.

Як бачым, станаўленне «саюза чатырох» альбо мытнага саюза яшчэ толькі адбываецца. Прычым ідзе яно не зусім роўна. Да прыкладу, расіяне папракнулі прадстаўнікоў Казахстана і Кіргізіі ў тым, што яны імкнуцца ў Сусветную гандлёвую арганізацыю паасобку, без узаемадзеяння з партнёрамі па мытнаму саюзу.

### ЦІ БУДЗЕ ПАРЛАМЕНТ У МЫТНАГА САЮЗА?

Зноў жа і на пасяджэнні МПК узнікла тая ж праблема ацэнкі мадэльных законаў, прымаемых у рамках «чацвёркі», якія сапраўды з'яўляюцца малаэфектыўнымі. Прадстаўнік беларускага парламента Алег Румо, у прыватнасці, зазначыў, што адсутнічае механізм рэалізацыі мадэльных законаў. А Г. Ціханаў сказаў яшчэ прасцей, што «любы чых любога прэзідэнта можа адмяніць усе нашы напрацоўкі». Тут выказвалася некалькі прапаноў да рашэння гэтай праблемы, адна з іх — не пісаць мадэльныя законы ўвогуле, а падпісваць асобныя дагаворы і пагадненні, зрабіць такі крок назад, каб потым шпарчэй пайсціналерад. Г. Ціханаў рашуча выказаўся за пашырэнне паўнамоцтваў Міжпарламенцкага камітэта «чацвёркі» да ўзроўню, які мае Еўрапарламент, і ў сувязі з гэтым ад імя расійскай дэпутацкай групы прапанаваў у перспектыве ператварыць МПК у сапраўдны парламент саюза, які прымае абавязковыя законы прамога дзеяння. Такі парламент павінен, на яго думку, складацца з дзвюх палат, адна з якіх выбіралася б непасрэдна насельніцтвам краін, а другая фарміравалася б нацыянальнымі парламентамі.

Аднак такія размовы аб перспектывах пакуль што застаюцца размовамі, не знаходзячы належнай падтрымкі ў калег. У прыватнасці Павел Шыпук выказаўся супраць існавання «паралельных» парламентаў на тэрыторыі краін СНД. «Гэта ўнясе сумяціцу ў наша жыццё» — падкрэсліў ён.

Тым часам Міжпарламенцкі камітэт па ранейшай схеме прыняў два новыя мадэльныя законы: аб інавацыях і аб занятасці насельніцтва.

**Валер КАЛІНОЎСКІ,**
*Санкт-Пецярбург—Мінск.*

*ГЕАПАЛІТЫКА*

# У ЧАКАННІ ПЛЁНУ ІНТЭГРАЦЫІ

**Як хутка беларуска-расійская інтэграцыя дасць рэальны плён двум народам? Для прыкладу, колькі часу спатрэбіцца, каб на тэрыторыі Саюза была ўведзена адзіная грашовая сістэма? Або за які тэрмін сярэдняя зарплата ў Беларусі выраўнуецца з расійскай? Ці — калі ў абедзвюх краінах-саюзніцах будуць аднолькавыя падаткі, пенсіі, ільготы?**

Нягледзячы на ўсю інтэграцыйную рыторыку і шумныя прапагандысцкія кампаніі апошніх гадоў, адказу на гэтыя зусім не другарадныя для звычайных грамадзян пытанні пакуль няма. І вельмі нават можа так здарыцца, што спадзяванні тых, хто разлічваў на імгненны эфект і магічныя ўласцівасці самога слова «саюз», акажуцца марнымі.

Для тых, хто здольны адкласці ў бок ружовыя акуляры настальгіі, варта было б звярнуць увагу на адну вельмі паказальную ў гісторыі еўрапейскай інтэграцыі дату. 16 красавіка 1998 года спаўняецца 50 гадоў з часу заснавання Арганізацыі еўрапейскага эканамічнага супрацоўніцтва (АЕЭС) — фактычна, пачатку доўгага шляху, па якім ішоў стары кантынент на працягу ўсіх пасляваенных гадоў, маючы на мэце пабудову адзінай аб'яднанай Еўропы.

Гэта потым на падмурку АЕЭС, па прапанове французскага міністра замежных спраў Рабера Шумана (9 мая 1950 г.) быў створаны першы наднацыянальны орган кіравання — Еўрапейскае аб'яднанне вугалю і сталі. Пасля спатрэбілася яшчэ сем гадоў для таго, каб 25 сакавіка 1957 года быў падпісаны «Рымскі дагавор»: шэсць краін Заходняй Еўропы (ФРГ, Францыя, Італія, Бельгія, Галандыя і Люксембург) аб'ядналіся ў Еўрапейскую эканамічную супольнасць (ЕЭС) ці «Агульны рынак».

«Агульны рынак» напачатку задумваўся як мытны саюз. Краіны «шасцёркі» паэтапна скасавалі мытныя бар'еры ў адносінах паміж сабой, а потым увогуле перасталі кантраляваць унутраныя межы, зрабіўшы іх празрыстымі для руху людзей і капіталаў.

Няцяжка заўважыць, што менавіта на гэтым этапе знаходзіцца сёння Саюз Беларусі і Расіі.

Пасля гэтага Еўропе спатрэбілася яшчэ дваццаць гадоў, каб прыйсці да Еўрапейскага парламента, Еўрапейскай камісіі (своеасаблівага аб'яднанага ўрада) і Еўрапейскага суда. І толькі больш як праз сорак гадоў — 1 студзеня 1999 года на кантыненце з'явіцца адзіная агульная валюта — «еўра».

На нашых вачах адбываецца імклівае ператварэнне кантынента ў тыя самыя «Злучаныя Штаты Еўропы», пра якія марылі палітыкі яшчэ ў XIX стагоддзі. Прычым у апошнія гады абрысы новай еўрапейскай канфедэрацыі праступаюць настолькі рэльефна і відавочна, што з вялікай доляй верагоднасці можна гаварыць пра тое, якім стане аб'яднаны кантынент на пачатку XXI стагоддзя. Ужо ў першым дзесяцігоддзі Еўрапейскі саюз, відавочна, будзе аб'ядноўваць мінімум 26 краін з насельніцтвам 480 мільёнаў чалавек. Па колькасці насельніцтва, эканамічнаму патэнцыялу і ёмістасці ўнутранага рынку аб'яднаная Еўропа пераўзыдзе Злучаныя Штаты і Расійскую Федэрацыю разам узятыя. Яна стане, бадай, галоўнай апорай сусветнай бяспекі, самым уплывовым цэнтрам сусветнай палітыкі, без якога прыняцце лёсавызначальных для планеты рашэнняў немагчымае. Беларусі на працягу бліжэйшых дзесяцігоддзяў наканавана быць буферам паміж Еўропай і Расіяй. Якія вынікі гэта можа мець для нашай краіны?

Нават калі беларускае кіраўніцтва змірыцца з негатыўным стаўленнем да сваёй палітыкі з боку еўрапейскіх структур, з праявамі ізаляцыі і дыскрымінацыі — гэта зусім не азначае, што Беларусь натуральным чынам ператворыцца ў востраў на карце кантынента і што такое становішча будзе захоўвацца на працягу доўгага часу.

Еўропа аказвае і будзе аказваць ціск на беларускае кіраўніцтва, прычым не столькі ў імя еўрапейскай будучыні Беларусі, колькі ў інтарэсах уласнай бяспекі. Прычынная сувязь тут вельмі простая. Вось як выказаўся пра знешнюю палітыку аб'яднанай Еўропы міністр замежных спраў Германіі Клаус Кінкель, выступаючы з прамовай перад кіраўніцтвам бундэсвера 25 лістапада 1997 года: «Караблі, поўныя албанцаў або курдаў, якія прычальваюць да берагоў Італіі; больш як 200 тысяч бежанцаў з Босніі, якія ўсё яшчэ знаходзяцца ў Германіі; 130 тысяч чалавек, якія хадайнічаюць аб прадастаўленні прытулку (пераважна выхадцаў з Косава), да якіх штомесяц дабаўляецца яшчэ больш як тысяча, наглядна дэманструюць: калі ЕС застанецца востравам стабільнасці пасярод мора бедных і слабаразвітых краін, яго не чакае добрая будучыня. Ён павінен — хоча ён таго ці не — у інтарэсах уласнай унутранай стабільнасці запоўніць той вакуум дабрабыту, які яго акружае. Гэта датычыць і Усходняй Еўропы, і краін Міжземнамор'я».

Красамоўная дэталь: з таго часу, як пачаўся канфлікт у Югаславіі, адна толькі Германія выдаткавала на ўрэгуляванне крызісу і змякчэнне яго вынікаў каля 24 мільярдаў марак. Для параўнання: гэта сума прыкладна роўная гадавому валавому нацыянальнаму прадукту Беларусі. Дзеля чаго Бон пайшоў на такія вялізныя, нават па нямецкіх мерках, выдаткі? Зусім не дзеля прывідных гегеманісцкіх мэтаў, пра якія гавораць камуністы і нацыянал-патрыёты ў Расіі і на Балканах. Проста мець па суседству з уласнымі межамі некалькі галодных, азлобленых і да зубоў узброеных краін вельмі небяспечна. Яны немінуча ператвараюцца ў крыніцу злачыннасці, масавай нелегальнай іміграцыі, перавалачную базу для наркотыкаў і зброі. Калі своечасова не пагасіць гэты ачаг (нават цаной значных фінансавых выдаткаў), у перспектыве страты могуць быць непараўнальна больш буйнымі.

З гэтых жа пазіцый вядучыя краіны Еўропы падыходзяць і да адносінаў з Беларуссю. Спецыфічная трактоўка беларускімі ўладамі прынцыпаў дэмакратыі і народаўладдзя не падабаецца еўрапейскім лідэрам зусім не таму, што яны марацць замахнуцца на суверэнітэт Беларусі або на сферу непадзельнага ўплыву Расіі. Проста там непакояцца, што стрымліванне эканамічных рэформаў можа прывесці да дэстабілізацыі ў краіне (напрыклад, у выніку зацяжнога эканамічнага крызісу і г. д.).

Хоць, зрэшты, для аб'яднанай Еўропы намнога важней адносіны з Расіяй. І менавіта Масква служыць найбольш эфектыўным рычагом ціску на Мінск.

Што да беларуска-расійскай інтэграцыі, то ў еўрапейскіх сталіцах назіраюць за ёй з цікавасцю і без вялікай трывогі. Эпоха імперый мінула. А цягнік еўрапейскай інтэграцыі стартаваў з пачатковай станцыі на паўстагоддзя раней, чым беларуска-расійскі экспрэс. І вельмі можа здарыцца, што Расія сама ў не надта далёкай будучыні стане часткай вялікай Еўропы.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## ЦЕЛААХОЎНІК ПРЫНЦЭСЫ ПАЧАЎ УСПАМІНАЦЬ



Джонс, целаахоўнік прынцэсы Дзіяны, які ўцалеў у трагічнай мінулагодняй аўтакатастрофе, успомніў, што адразу пасля інцыдэнту чуў голас прынцэсы. Англійская прэса цытуе словы Джонса аб тым, што ён чуў стогн, а затым прынцэса паклікала свайго спадарожніка Додзі аль Фаеда.

Целаахоўнік прынцэсы — адзіны, хто застаўся жывым у машыне, якая 31 жніўня мінулага года разбілася ў адным з парыжскіх тунеляў.

## НАДВОР'Е

**Маладзік 26 лютага**
**З 8.33 — 6-я месяцавыя суткі.**
***Месяц — у сузор'і Цяльца.***

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам снег, мокры снег. Тэмпература паветра ў Віцебску — каля нуля, Мінску і Магілёве — 0—2, Гродне, Брэсце, Гомелі — 2—4 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна, часам ападкі. Тэмпература 4-га ўначы — мінус 4—плюс 1, удзень — 0—5; 5-га ўначы — 1—6, удзень — 3—8 градусаў вышэй нуля.

# Культура — рухавік развіцця нацыі



**«Прамая лінія»: з вамі гутарыць міністр культуры Беларусі Аляксандр САСНОЎСКІ**



**— Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у 1995 годзе было прынята рашэнне аб увекавечанні памяці народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі (назваць вуліцу горада Мінска імем паэта і паставіць на магіле помнік). Прайшло амаль тры гады з дня смерці П. Панчанкі, але ніводнае з гэтых рашэнняў не было выканана.**

**Сям'я ПАНЧАНКАЎ.**

— Адносна выканання пастановы Кабінета Міністраў «Аб увекавечанні памяці народнага паэта Беларусі П. Е. Панчанкі» паведамляем, што на доме, у якім жыў Пімен Емяльянавіч, устаноўлена мемарыяльная дошка, пастановай Мінгарвыканкама ад 18 студзеня 1996 года № 23 адна праектуемая вуліца горада ў мікраэне Сухарава названа імем П. Панчанкі. Міністэрства культуры разам з Мінгарвыканкамам пачынаюць работу па стварэнню надмагільнага помніка. Аўтар яго будзе вызначаны экспертным саветам па манументальнаму мастацтву пры Міністэрстве культуры.

Па звестках, атрыманых у Дзяржаўным камітэце па друку, выданне збору твораў П. Панчанкі ў 5 тамах даручана выдавецтву «Мастацкая літаратура» ў 1998—2000 гадах. Першы том будзе падрыхтаваны да канца гэтага года. У гэтыя ж тэрміны прадугледжана выданне ўспамінаў пра паэта. Адначасова паведамляем, што ў 1993 годзе да 75-годдзя П. Панчанкі выйшаў яго аднатомнік «Выбраныя творы».

**— Габеленавая фабрыка ў Барысаве ў свой час мела сусветную вядомасць. Нашы майстры выконвалі там сотні заказаў. Вытворчасць квітнела, а чарга заказчыкаў была на некалькі гадоў наперад. Цяпер гэтае прадпрыемства ў заняпадзе. Майстры без працы. Якія захады зроблены Мінкультам, каб у новых умовах змагла захавацца фабрыка, і мастацтва габелена, што мае даўнія традыцыі, магло развівацца?**

**Віктар ШАРКАВЕЦ, мастак.**

— Барысаўскі камбінат прыкладнога мастацтва (г. Барысаў, вул. Блюхера, 19) з'яўляецца ўласнасцю Беларускага саюза мастакоў. Ён вырабляе мастацкі трыкатаж, ткацтва, кераміку, габелены. Створаны для забеспячэння патрэб усіх рэгіёнаў былога СССР, зараз камбінат (у адносінах да стварэння габеленаў) не мае ранейшых заказаў. Калектыў габеленавага цэха захаваны, мастакі маюць дробныя заказы і работу ў іншых цэхах.

**— Мы адчуваем глыбокі інфармацыйны вакуум. Ці магчыма, каб Мінкультуры выдзяляла цвёрдую суму, працэнт ад бюджэту на камплектаванне бібліятэчных фондаў?**

**Чаму дырэктар раённай бібліятэкі атрымлівае зарплату ўсяго на 100 тысяч большую, чым дырэктар сельскай бібліятэкі?**

**Л. НЕСЦЯРОВІЧ, дырэктар Мядзельскай цэнтральнай раённай бібліятэкі.**

— У 1996 годзе Міністэрствам культуры вызначаны прыярытэтныя напрамкі развіцця культуры на 1997—2000 гг., для бібліятэк — гэта камплектаванне фондаў і камп'ютэрызацыя. Таксама Міністэрствам культуры прынята рашэнне ўстанавіць нарматыў фінансавання на камплектаванне ў памеры 15 працэнтаў ад агульнага фінансавання бібліятэк, зацверджаны «Пералік перыядычных выданняў для падпіскі публічнымі бібліятэкамі», які павінен павялічыць колькасць перыёдыкі. Адпаведныя пісьмы былі накіраваны кіраўнікам аблвыканкамаў, Мінгарвыканкама. Міністэрства культуры не мае магчымасці выдзяляць адпаведную суму на гэтыя мэты ў сувязі з рознымі крыніцамі фінансавання.

У адпаведнасці з пастановай Міністэрства працы № 1 ад 9.01.1998 дырэктар раённай бібліятэкі ў параўнанні з загадчыкам сельскай бібліятэкі-філіяла мае больш высокія разрад і каэфіцыент, але розніца паміж зарплатамі невялікая ў сувязі з тым, што загадчык сельскай бібліятэкі атрымлівае надбаўку (20 працэнтаў) за працу ў сельскай мясцовасці.

(Заканчэнне. Пачатак у №45.)

**— Нас хвалюе пытанне забеспячэння 55 тысяч чытачоў кнігамі. За мінулы год мы мелі магчымасць набыць 0,16 кнігі на чытача. Няма ні вучэбнай, ні праграмнай школьнай літаратуры. Яшчэ менш выдзелена сродкаў на набыццё літаратуры на гэты год. У заняпадзе матэрыяльная база бібліятэк. Што будзе з тым пакаленнем, якое пазбаўлена магчымасці карыстацца вучэбнай, дзіцячай літаратурай?**

**Н. НЯМКЕВІЧ, Бабруйская цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма.**

— Сітуацыя, тыповая для бібліятэк рэспублікі, тлумачыцца эканамічнымі праблемамі дзяржавы і мае часовы характар. Міністэрствам культуры прымаюцца адпаведныя меры па паляпшэнню камплектавання бібліятэчных фондаў. Распрацавана мэтавая праграма забеспячэння бібліятэк сацыяльна значнай літаратурай.

Так, у 1998 годзе бібліятэкі атрымаюць 47 назваў кніг па розных галінах ведаў. Па выніках пашпартызацыі ўстаноў культуры, якая была ажыццёўлена ў мінулым годзе, на рэспубліканскім і абласных узроўнях рыхтуюцца праграмы па паляпшэнню дзейнасці ўстаноў культуры, дзе таксама будуць адлюстраваны пытанні камплектавання бібліятэк.

**— Наш філіял абслугоўвае 2 тысячы 800 чытачоў. У сувязі са скарачэннем служачых дзяржапарату, у 1995 годзе ў нас была скарочана пасада загадчыцы. І гэтак адбылося ў пяці бібліятэках. Але ў 1996 годзе ўведзены тыпавыя штаты цэнтралізаваных бібліятэчных сістэм, дзе такая пасада прадугледжана.**

**Я з'яўляюся матэрыяльна адказнай. Але скажыце, ці лічыцца мая цяперашняя пасада — выконваючай абавязкі загадчыцы — адміністрацыйнай?**

**Г. НОСАВА, в. а. загадчыцы філіяла Полацкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы.**

— У адпаведнасці з «Тыпавымі штатамі цэнтралізаваных бібліятэчных сістэм» пасада загадчыка філіяла ўводзіцца пры колькасці чытачоў і кнігавыдач у гарадской бібліятэцы-філіяле звыш 2000 чытачоў і 30 тыс. кнігавыдач. Мясцовыя ўлады г. Полацка парушаюць пастанову Міністэрства культуры, узгодненую з Міністэрствам фінансаў ад 22.12.1995.

Згодна з пунктам 2.5 існуючай «Інструкцыі па ўліку і захаванню бібліятэчных фондаў у Рэспубліцы Беларусь», адказнасць за захаванасць бібліятэчнага фонду нясуць усе работнікі бібліятэкі, якія маюць да яго доступ. Зацверджаным Міністэрствам культуры пры ўзгадненні з Міністэрствам працы і Міністэрствам фінансаў «Пералікам пасад, якія адносяцца да кіруючых работнікаў і спецыялістаў устаноў культуры» ад 28.06.1996 загадчык бібліятэкі-філіяла адносіцца да кіруючых работнікаў.

**— Чаму ў бібліятэцы в. Бобрык Пінскага раёна працуе работнік, які не мае бібліятэчнай адукацыі?**

**Жыхары вёскі.**

— У в. Бобрык часова працуе работнік без бібліятэчнай адукацыі. Хутка там будзе працаваць малады спецыяліст — цяпер яна заканчвае Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум.

**— Пасля заканчэння Беларускага універсітэта культуры па размеркаванню працую 10 гадоў бібліятэкарам. Жыву ў інтэрнаце. Кааператыўную кватэру пабудаваць не магу. На чарзе — 199-я. Адна з работнікаў бібліятэкі не маю кватэры. Прашу паспрыяць.**

**Р. ГЛУШАКОВА, Пружаны, бібліятэкар.**

— Кватэрнае пытанне ў цяперашні час з'яўляецца вельмі складаным. На працягу апошніх гадоў Міністэрства культуры не атрымлівае жыллё для работнікаў галіны, за выключэннем кватэр для творчых работнікаў культуры, якія былі выдзелены па рашэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 1996 годзе.

Адсутнічаюць таксама фінансавыя сродкі для самастойнага будаўніцтва жылога дома або ўдзелу ў долевым будаўніцтве кватэр. Улічваючы вышэйсказанае, вырашыць пытанне аб атрыманні кватэры міністэрства не мае магчымасці. Вам неабходна звярнуцца ў выканкам па месцы жыхарства з мэтай вырашэння жыллёвага пытання ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

**— Раскажыце, калі ласка, аб рэстаўрацыйных работах, што вядуцца ў полацкім Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры.**

**ТАРАСАВА, мастацтвазнаўца, Гомель.**

— Калі гаварыць аб полацкім Свята-Ефрасіннеўскім манастыры, то варта мець на ўвазе не толькі перспектыву, але не забывацца і пра ўжо зробленае. У свой час за кошт рэспубліканскіх бюджэтных асігнаванняў была праведзена рэстаўрацыя Крыжаўзвіжальнай і Цёплай цэркваў. З аднаўленнем дзейнасці манастыра бюджэтныя сродкі былі накіраваны на рамонт жылых карпусоў. Манастыру было перададзена вытворчае памяшканне, якое выкарыстоўвалася прадпрыемствам «Полацкрэстаўрацыя».

З 1991 г. праводзяцца работы па рэстаўрацыі манументальнага жывапісу Спаса-Праабражэнскай царквы. У мінулым годзе дзяржавай на гэтыя мэты выдаткавана 579,9 млн. рублёў. У 1998 г. запланавана прафінансаваць работы ў аб'ёме 600 млн. рублёў. З 1999 г., з завяршэннем сёлета работ па шэрагу буйных аб'ектаў рэстаўрацыі, у прыватнасці на Пінскім калегіуме езуітаў, Дабравешчанскай царкве ў Віцебску, Камянецкай вежы, плануецца павялічыць аб'ём фінансавання рэстаўрацыі полацкіх фрэсак.

Варта адзначыць, што па ініцыятыве мастака-рэстаўратара У. В. Ракіцкага, які праводзіць работы ў Спаса-Праабражэнскай царкве, у Полацку ствараецца музей насценнага жывапісу. Яго яшчэ можна назваць музеем рэстаўрацыі помніка архітэктуры. Найбольш каштоўнымі экспанатамі стануць перанесеныя на новую аснову жывапісныя сюжэты, якімі ў больш познія стагоддзі былі запісаны фрэскі XII ст. полацкай царквы. Яны таксама ўяўляюць значную мастацкую і культурную каштоўнасць. Гэту справу актыўна падтрымлівае кіраўніцтва г. Полацка.

**— Ці любіце вы беларускія народныя песні? У нас такія цудоўныя калектывы ёсць, што выконваюць народныя песні, а вось купіць іх касеты з запісамі практычна нельга. Што вы можаце параіць аматарам народнай песні?**

**Людміла МУХІНА, Магілёў.**

— Безумоўна, я вельмі люблю народныя песні ў выкананні нашых прафесійных і самадзейных калектываў. У некаторых з іх, дарэчы, ёсць запісы. На базе «Белканцэрта» ёсць запісы песень у выкананні ансамбля «Сябры» і яго саліста Анатоля Ярмоленкі, можна паслухаць у запісе «Купалінку», «Палац». А ў «Свята» ёсць аўдыёкасеты. На жаль, кампакт-дыскаў у нашых выканаўцаў няма.

**— Стала вельмі цяжка трапіць на канцэрты вядомага калектыву «Харошкі». Можа быць, іх можна будзе ўбачыць у Мінску ў сувязі з юбілеем ансамбля?**

**Сям'я ГІРЫЧ, Мінск.**

— Прыемна, што прыхільнікаў «Харошак» хвалюе творчы лёс калектыву. Магу сказаць, што ў ансамбль вярнуўся М. Дудчанка, і цяпер ён там дырэктар і галоўны балетмайстар. Варта, я думаю, зрабіць праграму на нашым тэлебачанні, якая б расказала пра канцэртную дзейнасць «Харошак», пра праблемы калектыву.

**— Ці патрэбна ў наш час такая колькасць фестываляў? Можа, лепш было б накіраваць сродкі, што ідуць на шматлікія канцэрты, на аплату працы работнікаў культуры — акцёраў, бібліятэкараў, падтрымку мастакоў?**

**Вера КАШКІНА, сацыёлаг, Брэст.**

— Я лічу, што такі прагматычны падыход можа толькі пашкодзіць культуры. Канешне, не ўсе фестывалі, што ладзяцца ў Беларусі, раўназначныя. Але яны, тым не менш, даюць кожнаму чалавеку магчымасць выявіць свае творчыя здольнасці. Вось сёлета мы праводзім фестываль «Беларусь — мая песня». У ім прымуць удзел толькі самадзейныя артысты.

Будуць праходзіць адборачныя туры спачатку ў раёнах, потым па вобласцях і, нарэшце, вялікі канцэрт у сталіцы. Усе гэтыя людзі спяваюць, танцуюць не за грошы. У песні і танцы жыве душа народа. Мінкульт, падкрэслю, выдзяляе сродкі толькі на арганізацыю канцэртаў. Значыць, нашыя падаткі ідуць на карысную і важную справу, на духоўнасць.

**— Дзе, у якіх сферах патрэбныя спецыялісты-культуролагі? І ці будзе сёлета размеркаванне гэтых спецыялістаў на працу?**

**Ганна ГАРДЗЕЕВА, Вілейка.**

— У Мінску паспяхова працуе інстытут праблем культуры. Там патрэбныя культуролагі, у кожным абласным цэнтры ёсць адпаведныя метадычныя цэнтры, службы, якім таксама патрэбныя такія спецыялісты. На раённым узроўні — упраўленні культуры ці аддзелы культуры.

Што такое ўвогуле культуролаг? Гэта спецыяліст у галіне гуманітарных ведаў, прынамсі культуры, які здольны вызначыць існуючыя грамадскія праблемы, з'явы, прапанаваць нейкія падыходы.

Што датычыцца размеркавання студэнтаў на працу, то магу паведаміць, што, згодна з указам прэзідэнта, пачынаючы з 1998 г., кожнаму выпускніку гарантуецца першае працоўнае месца. Кожны будзе накіраваны на працу адпаведна сваёй спецыяльнасці. Праўда, не кожны ў такім выпадку зможа трапіць туды, куды яму хацелася б. Але гэта ўжо іншае пытанне.

**— У рэдакцыю з адкрытым лістом звярнулася група мастакоў — М. Савіцкі, М. Данцыг, І. Стасевіч, В. Занковіч, Н. Паплаўская, В. Ткачоў, В. Санкова і Г. Гаркуноў, якія ўздымаюць пытанне правамернасці вызначэння летась мастаком года ў Беларусі Генадзя Буралкіна. У лісце паведамляецца, што «Беларускі Саюз мастакоў не вылучаў кандыдатуру Г. Буралкіна на атрыманне прэміі «Мастак года». Ці не маглі б вы пракаменціраваць гэту заяву?**

**Т. АНТОНАВА, заг. аддзела культуры «Звязды».**

— На запыт групы вядомых мастакоў Беларусі адносна вызначэння мастаком года Г. В. Буралкіна магу сказаць наступнае. У адпаведнасці з Палажэннем аб спецыяльных прэміях за дасягненні ў галіне мастацтва вылучэнне кандыдатаў можа ажыццяўляцца ўпраўленнямі і аддзеламі культуры выканкамаў мясцовых Саветаў, творчымі саюзамі, грамадскімі аб'яднаннямі і аргкамітэтамі, установамі культуры і мастацтва. Г. В. Буралкіна вылучыў Беларускі саюз мастакоў, аддзел культуры Гродзенскага гарвыканкама і Міжнародная канферэнцыя саюзаў мастакоў, мастацкая галерэя СМБ «Мастацтва» за шэраг яго выстаў, арганізаваных у 1997 годзе. Кандыдатура Г. В. Буралкіна, як і астатніх намінантаў па іншых галінах мастацтва, разглядалася камісіяй Міністэрства культуры, у састаў якой уваходзяць прадстаўнікі творчых саюзаў, і была аднадушна падтрымана. Калегія Міністэрства культуры, таксама ў прысутнасці старшынь творчых саюзаў, аднагалосна зацвердзіла прапановы камісіі.

**— Хачу даведацца, чаму быў «пакладзены на паліцу» дакументальны фільм «Невядомы Гастэла»? У аснове стужкі — адна з загадак гібелі і подзвігу Мікалая Гастэла. Пры перазахаванні астанкаў лётчыка, якога ўсе лічылі тым самым славутым Гастэла, высветлілася, што гэта лётчык Маслаў, а не Гастэла. Інфармацыю доўга трымалі ў сакрэце, але тым не менш яна стала прасочвацца ў прэсу. Рэжысёр Анатоль Алай, чый бацька таксама загінуў у час вайны, прапаў без вестак, узяўся зрабіць фільм-расследаванне. Яму ўдалося знайсці ў архівах звесткі пра тое, што Гастэла не загінуў, але трапіў у палон... Складваецца ўражанне, што праўду аб вайне і цяпер не надта хочуць ведаць. З мастацкага боку да гэтай стужкі, як я разумею, не можа быць прэтэнзій — яна зроблена прафесійна.**

**В. БАГУШЭВІЧ, вадзіцель тралейбуса, Мінск.**

— Дадзена даручэнне супрацоўнікам музея Вялікай Айчыннай вайны дадаткова вывучыць архіўныя матэрыялы, звязаныя з лёсам Мікалая Гастэла.

Я асабіста буду кантраляваць гэту справу да высвятлення некаторых абставінаў.

**— У грамадскай сферы ў апошнія гады значна скарацілася выкарыстанне беларускай мовы. Як гэта тэндэнцыя можа ўплываць на развіццё беларускай нацыянальнай культуры?**

**А. ЛЮЦКО, Масква.**

— Тая сітуацыя з мовай, якая існуе ў Беларусі, склалася не сёння і не ўчора. І не год таму назад. Мы ўвогуле унікальная нацыя. У час апошняга перапісу насельніцтва 85 працэнтаў жыхароў Беларусі напісалі, што іх родная мова — беларуская. Але тым не менш яны ўсе размаўляюць па-руску. І ніякімі загадамі, пастановамі змяніць хутка сітуацыю не ўдасца. Гэта залежыць ад самасвядомасці чалавека, яго агульнай культуры. Я лічу, што кожны мае права выбіраць, якой мовай яму карыстацца — рускай ці беларускай. Але ўжо сам факт, што ты валодаеш роднай мовай, надае табе новую якасць.

Што ж у нас сёння адбылося з паняццем «нацыянальнае»? У масавай свядомасці яго падмяніла паняцце «нацыяналістычнае». Нармальныя праявы нацыянальнага нярэдка ўспрымаюцца як нацыяналістычныя выбрыкі. Мне самому неаднойчы даводзілася адчуваць негатыўную рэакцыю з боку маіх суграмадзян, мінчан, калі звяртаўся да іх пабеларуску. Але здаралася, што і адваротная рэакцыя праяўлялася. Гэта сведчыць, што ў грамадстве адбываюцца складаныя працэсы, ідзе сталенне нацыі. Безумоўна, што для сферы культуры тэндэнцыя, якую вы адзначылі, не вельмі добрая.

**— Вясковыя жыхары заўсёды найбольш дыскрымініраваныя ў культуры. Тэатры, музеі, карцінныя галерэі — усё гэта для сталіцы і вялікіх гарадоў. А цяпер дык і бібліятэкі закрываюцца, дамы культуры спыняюць сваю дзейнасць. Такая дзяржаўная палітыка ніяк не на карысць нашаму народу. Што вы думаеце наконт гэтага?**

**Яўген ВАСЮКЕВІЧ, Навагрудскі раён, в. Шыльды.**

— Найбольш «пацярпелыя» ад грамадскіх катаклізмаў канца XX стагоддзя, безумоўна ж, вяскоўцы. Але дзяржаўная палітыка ў сферы культуры якраз накіравана на тое, каб даць магчымасць і гарадскім, і вясковым жыхарам мець доступ да культуры, каб кожны меў магчымасць рэалізавацца ў творчым плане. Вось нядаўна Мінкультам выдзелены сродкі на закупку відэапраекцыйных установак. Яны будуць цэнтралізавана размеркаваны па ўсіх раёнах рэспублікі. Жыхары нават самых маленькіх вёсак будуць мець магчымасць паглядзець кінафільмы на відэаэкране. Перасовачная ўстаноўка дапаможа гэта зрабіць.

У Вілейскім раёне мы будзем адпрацоўваць сучасную мадэль сельскай установы культуры, дзе звязаны ў адзін вузел сярэдняя школа і Дом культуры, кіраўніцтва саўгаса ці калгаса, сельсавета. Правядзём там рэспубліканскі семінар, каб распаўсюдзіць вопыт работы.

На жаль, на пачатку 90-х гадоў у перыяд грамадскага і палітычнага ўзрушэння, мы страцілі каля 15 працэнтаў устаноў культуры. Гэты працэс цяпер прыпынены.

Але ёсць небяспека, што матэрыяльная база сельскай культуры састарэла. 1999-ты бюджэтны год будзем рабіць годам умацавання матэрыяльнай базы сельскіх устаноў культуры.

**— Раней мы хадзілі ў Купалаўскі тэатр як на свята, глядзелі ўсе прэм'еры. Многія спектаклі былі сапраўднай з'явай мастацтва, падзеяй у грамадстве. Але ж цяпер купалаўцы, здаецца, здалі пазіцыі галоўнага тэатра Беларусі? Надта рэдка яны радуюць нас, гледачоў, цікавай, яркай пастаноўкай. Што скажа на гэта міністр?**

**Вераніка ВАСІЛЕЎСКАЯ-ПОЎТНЕР, былая настаўніца, Мінск.**

— Я згодзен, што Купалаўскі тэатр перажывае не лепшыя часы. Ёсць пэўныя праблемы з рэпертуарам, з рэжысурай. Але тым не менш я бы не стаў сячы з-за пляча і казаць, што тэатр развальваецца, як гэта робяць некаторыя журналісты. Узяць хаця б апошні спектакль купалаўцаў «Вітаўт» па п'есе Дударава. Ён ідзе з аншлагам.

У нас, безумоўна, ёсць выдатныя рэжысёры. Назаву хаця б адно імя — Мікалай Пінігін. Але ён не захацеў заняць пасаду галоўнага рэжысёра ў тэатры імя Янкі Купалы. Разумею, што Пінігіна цяпер з ахвотай запрашаюць паставіць спектакль у Санкт-Пецярбург і ён атрымлівае за гэта вялікія ганарары...

І ўсё ж я перакананы, што Купалаўскі тэатр яшчэ скажа сваё слова.

**«Прамую лінію» вяла Таццяна АНТОНАВА.**

**Паводле апошніх звестак, у Беларусі дэ-юрэ існуе 35 палітычных партый. Аднак на справе ў краіне дзейнічаюць не больш дзесятка арганізацый. Большасць іх стваралася напярэдадні парламенцкіх выбараў, і сёння яны вярнуліся ў сваім развіцці да зародкавага стану. У выніку грамадзяне краіны нават не ведаюць аб існаванні некаторых партый. Пра сённяшні дзень ды пра будучае беларускай шматпартыйнасці карэспандэнт «Звязды» размаўляе з начальнікам упраўлення грамадскіх арганізацый Міністэрства юстыцыі Міхаілам СУХІНІНЫМ.**

# «РЭВІЗІЯ» ДЛЯ НЕКАТОРЫХ ПАРТЫЙ МОЖА ЗАКОНЧЫЦЦА СУМНА

**— У КАНЦЫ МІНУЛАГА ГОДА ў Брэсце адбыўся выязны семінар міністэрства, дзе размова ішла выключна пра функцыянаванне палітычных партый. Наколькі я ведаю, менавіта з таго моманту вызначыліся новыя падыходы дзяржавы да дзейнасці гэтых арганізацый. У чым іх сутнасць?**

— Я адразу заўважыў бы, што вызначыліся новыя падыходы да бяздзейнасці партый. Што ж да семінара, то гэта было звычайнае, нават традыцыйнае мерапрыемства. Аднак на ім міністэрства ўпершыню вырашыла як след прааналізаваць сітуацыю з партыямі. Разам з абласнымі ўпраўленнямі мы сабралі звесткі аб уліку рэгіянальных партыйных арганізацый. У выніку атрымалася вельмі незайздросная карціна. Нагадаю, што згодна з заканадаўствам, партыя павінна мець не менш як 500 членаў. Адначасова яна павінна быць абавязкова прадстаўлена ў большасці абласцей — як мінімум у чатырох, хаця, відавочна, сапраўдная палітычная арганізацыя павінна быць настолькі разгалінаванай, каб мець свае суполкі ва ўсіх рэгіёнах краіны. Аднак высветлілася, што, напрыклад, Беларуская аб'яднаная спартыўная партыя, Народная партыя «Адраджэнне» (не блытаць з Беларускім народным фронтам «Адраджэньне», — **Ю. Л.**), Партыя «Беларускі навукова-вытворчы кангрэс», Партыя ўсебеларускага адзінства і згоды, Партыя аматараў піва, Беларуская сацыялістычная партыя, Партыя «Хрысціянска-дэмакратычны выбар», Сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды і некаторыя іншыя не маюць ніводнай узятай на ўлік рэгіянальнай арганізацыйнай адзінкі, да чаго іх абавязваюць статуты. Да ведама трэба сказаць, што кожная арганізацыйная структура партыі, калі яна з'яўляецца юрыдычнай асобай, павінна быць пастаўлена на ўлік ва ўпраўленні юстыцыі. Мала таго, што гэтыя партыі ніякім чынам сябе не праяўляюць у грамадска-палітычным жыцці краіны, ёсць нямала прыкладаў, што не праводзяцца і абавязковыя ўнутрыпартыйныя мерапрыемствы, што супярэчыць статутам партый.

**— Гэта фактычна азначае, што некаторыя партыі ператварыліся ў фантомы: у сталіцы ёсць старшыня, маюцца пячатка, шыльда і не больш таго...**

— Правільна. Міністэрства вымушана было мірыцца з такім становішчам, бо займалася рэгістрацыяй і перарэгістрацыяй, а на кантроль часу не хапала. Зараз нарэшце вырашана навесці парадак. Аднак аказалася не ўсё так проста. У нас існуе пэўны прабел у заканадаўстве, і мы не можам ліквідаваць партыю, калі нават будзе ўстаноўлена, што яна не мае пячаткі, што не адкрыты рахунак у банку, што членамі арганізацыі не выплачваюцца ўзносы (дарэчы, гэта азначае, што членаў партыі на справе няма), што ў выніку як юрыдычная асоба партыя не сфарміраваная. Пакласці гэтыя факты ў аснову і звярнуцца ў Вярхоўны суд мы не можам, паколькі закон прадугледжвае толькі тры выпадкі ліквідацыі палітычнай партыі: па-першае, калі яе дзейнасць не адпавядае ч. 2 арт. 6 Закона аб партыях, дзе гаворыцца пра недапушчэнне проціпраўнай дзейнасці арганізацый; па-другое, калі былі дапушчаны памылкі пры рэгістрацыі; па-трэцяе, калі на працягу года партыя паўторна здзейсніла ўчынак, за які атрымала пісьмовае папярэджанне. Вось мы і пайшлі па апошняму шляху: 22 снежня мінулага года Міністэрства юстыцыі накіравала афіцыйныя лісты ўсім партыям з просьбай паведаміць звесткі пра колькасны састаў і структуру арганізацый, папрасіла пацвердзіць іх жыццядзейнасць. На гэтыя запыты 23 партыі своечасова не адказалі, тым самым парушыўшы закон, за што і атрымалі пісьмовыя папярэджанні. Некаторым партыям былі накіраваны паўторныя папярэджанні. Калі і на іх не будзе рэакцыі, то наступным крокам стане зварот у Вярхоўны суд з просьбай аб ліквідацыі партыі. На сённяшні момант ужо падрыхтаваны дакументы па Партыі «Ачышчэнне», Народнай партыі «Адраджэнне», Партыі «Беларускі навукова-вытворчы кангрэс», Партыі аматараў піва. Выклікаюць моцныя сумненні Беларуская спатрыўная аб'яднаная і Беларуская сацыяльна-спартыўная партыі (з'явілася новая інфармацыя, што апошняй таксама фактычна няма), Партыя ўсебеларускага адзінства і згоды і шэраг іншых. І гэта толькі пачатак.

**— Дзеля чаго праводзіцца падобная «рэвізія» партый? Толькі для таго, каб неяк упарадкаваць сферу партыйнага жыцця ў краіне?**

— Айчыннае заканадаўства прадугледжвае, што любыя аб'яднанні, у тым ліку і палітычныя партыі, дзейнічаюць у адпаведнасці са сваім статутам. А там усюды запісана, што партыі павінны праводзіць пэўныя мерапрыемствы, што яны дзейнічаюць у інтарэсах грамадзян. Такім чынам, яны павінны выконваць свае статут і праграму. Калі ж гэтага не адбываецца, то парушаецца закон, і рэгіструючы орган — Міністэрства юстыцыі — у гэтым выпадку абавязана прымаць адпаведныя меры. Мы не толькі рэгіструем грамадскія арганізацыі, але і кантралюем іх дзейнасць. Праўда, не трэба думаць, што мы такія бязлітасныя. У нашай практыцы мы толькі аднойчы звярталіся ў суд, калі было ліквідавана Беларускае згуртаванне вайскоўцаў.

**— Ці ёсць у Беларусі партыі, якія маюць папярэджанні аб незаконнай і проціпраўнай дзейнасці?**

— На шчасце, папярэджанняў са спасылкай на арт. 6 закона ніводная беларуская партыя не атрымлівала.

**— Якія палітычныя арганізацыі вы адзначылі б як найбольш законапаслухмяныя, актыўныя і дзеяздольныя?**

— У першую чаргу трэба назваць партыі камуністычнага накірунку — ПКБ і КПБ, а таксама Аб'яднаную грамадзянскую партыю. А больш... Ну, напрыклад, я атрымаў звесткі пра актывізацыю Партыі БНФ. Але ў той жа час мне вядома, што большасць мерапрыемстваў, якія праводзіць апазіцыя, арганізуюцца якраз не партыяй, а грамадскім рухам Беларускі народны фронт «Адраджэньне». Трэба адзначыць у гэтым шэрагу і Партыю «За сацыяльную справядлівасць», створаную пад кіраўніцтвам бізнесмена Клюева. Але яе актыўнасць дасягаецца з-за шматлікіх выступленняў пацярпелых укладчыкаў, з якіх і складаецца партыя, таму наўрад ці трэба ў гэтым выпадку казаць пра партыйную актыўнасць. Беларуская сялянская партыя застаецца на слыху па прычыне частых выступленняў яе кіраўніка Яўгена Лугіна. Тое ж можна сказаць і пра Патрыятычную партыю Баранкевіча. Але актыўнасць лідэра, падкрэслю, не азначае актыўнасці усяе арганізацыі.

**— Ці праўда, што самай масавай партыяй з'яўляецца Ліберальна-дэмакратычная?**

— Кіньце. Паводле афіцыйнай статыстыкі, Беларуская партыя працы (Бухвостаў) мае 647 членаў, Жаночая партыя «Надзея» (Палевікова) — 1029, Партыя «Славянскі Сабор Белая Русь» (Сяргееў) — 647, з якіх сапраўдных членаў партыі толькі 511 чалавек, Партыя камуністаў беларуская (Калякін) — 10.429, Камуністычная партыя Беларусіі (Чыкін) — 7011, Беларуская рэспубліканская партыя (Арцішэўскі) — 547, Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці (Нятылькін) — 524, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная грамада» (Статкевіч) — 1729, Беларуская партыя «Зялёны свет» (Грамыка) — 953, Аб'яднаная грамадзянская партыя (Багданкевіч) — 2500, Беларуская сялянская партыя (Лугін) —1647, Партыя Беларускага народнага фронту (Пазняк) — 2338. Астатнія наогул звестак не падалі і атрымалі пісьмовыя папярэджанні.

**— Не сакрэт, што многія партыі стваралiся напярэдадні выбараў. Аднак, пацярпеўшы няўдачу, частка іх на справе развалілася. А улічваючы, што наступныя выбары няхутка, можна прагназіраваць далейшы заняпад партый. Вы згодны з такім бачаннем перспектыў?**

— Цалкам. У нас ёсць партыі, якія называюцца парламенцкімі. Гэта значыць яны дзейнічаюць толькі ў перыяд парламенцкіх выбараў і толькі тады, калі ўдаецца сфарміраваць асобную фракцыю ў заканадаўчым органе. І такіх партый — пераважная большасць.

**— На фоне такой незайздроснай сітуацыі ці знаходзяцца зараз жадаючыя зарэгістраваць новую палітычную арганізацыю?**

— Так, днямі для кансультацыі прыходзілі прадстаўнікі аргкамітэта па адраджэнню Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Калі вы памятаеце, пасля аб'яднання БСДГ і ПНЗ частка нязгодных пад кіраўніцтвам Леаніда Сечкі стварыла Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю народнай згоды. Другая частка — Станіслаў Шушкевіч, Алег Трусаў і іншыя — зараз спрабуюць аднавіць Грамаду. Іншай інфармацыяй мы не валодаем.

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## Старонка Паўла Глобы

### 3 сакавіка, аўторак

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Захоўвайце ва ўсіх справах сумленнасць і парадак. Сёння можна распачынаць судовы працэс за справядлівае вырашэнне. Добра абменьвацца інфармацыяй і вопытам. Імкніцеся да гармоніі, не забывайцеся пра любоў і дараванне. Гэта дзень весялосці і радасці, забаў і гульняў, недапушчальныя адасабленне і сум. Прынясіце радасць сабе і іншым, дарыце падарункі. Можна нават выпіць, але ў меру. Абавязкова ўдзяліце ўвагу дзецям, пагуляйце з імі, зрабіце ім свята, займіцеся разам спортам. Сёння нельга галіцца і стрыгчыся. Проціпаказана есці шмат салодкага.

**АДЗЕННЕ**. Не рэкамендуецца светлае адзенне. Прытрымлівайцеся строгіх тонаў, аддайце перавагу цёмным, шэрым.

**ПРЫМЕТЫ**. Калі вы ніяк не можаце прачнуцца, значыцца сумленне ваша чыстае. Знайсці дробны металічны прадмет — да шчасця, удачы, любові. Выпадкова ўкалоцца нечым, парэзацца ці апарыцца — знак таго, што вас можа пакінуць удача. Калі ўпала сумка ці капялюш — да матэрыяльных страт.

**СНЫ**. Амаль усе сны ў гэты дзень лічацца пустымі, асабліва тыя, якія сняцца ў сонечнае надвор'е. Рэалізуюцца вельмі хутка, на працягу 1-2 сутак.

**МЕДЫЦЫНА**. Проціпаказаныя аперацыі і працэдуры, звязаныя з горлам, шчытападобнай залозай, эндакрыннай сістэмай і шыяй. Спрыяльны час для аперацый, звязаных з палавымі органамі. Праводзьце працэдуры па амаладжэнню.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## Беларускі народна-асветніцкі каляндар

### 3 сакавіка

1067 год — Першыя летапісныя звесткі пра Мінск і Оршу.

1918 год — Падпісанне Брэсцкага мірнага дагавора Савецкай Расіі з Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Балгарыяй і Турцыяй, паводле ўмоў якога Беларусь была падзелена па лініі Дзвінск —Свянцяны—Ліда—Пружаны—Бярэсце.



## 12 марта

**Объявление о продаже объектов коммунальной собственности г. Минска, не проданных на ранее проводимых аукционах**
**Аукцион состоится в 11.00 12 марта 1998 года по адресу: г. Минск, пр-т Скорины, 25. На аукцион выставлены следующие объекты:**

МИНСК

| NN | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Наименование объекта | Магазин N16 ГТП "Московское" [1] | Незавершенное строительство магазина "Часы" [6] | Незаверш. стр-во "Базы монолитного домостроения " АППСП "Монолит" [2] | Здание ресторана "Журавинка" [3] | Незавершенное строит-во базы ТПФ "Живинка" [3] | АП магазин "Хозяюшка" и арендуемое им гос. имущество [7] | ГП универсам "Алтайский" [4] | Здание [5] |
| 2 | Местонахождение объекта в г.Минске | ул. Куприянова, 1 ул. Куприянова, 3 | ст. метро "Молодежная" | Западный промузел г.Минска, ТЭЦ-4 | ул. Я. Купалы, 25 | пер. Стебенева | ул. Иркутская, 37 | ул. Алтайская, 66а | ул.Маяковского, 123 а |
| 3 | Начальная цена продажи | 96,50 | 1 512,00 | 34 750,00 | 36 268,95 | 9 561,00 | 286,10 | 852,73 | 218,00 |
| 4 | Сумма залога (млн.руб) | 9,65 | 151,20 | 3 475,00 | 3 626,90 | 956,10 | 28,61 | 85,27 | 21,80 |
| 5 | Задолженность (млн.руб) | 1 738,94 | - | - | - | - | 1 300,10 | 2 201,00 | - |
| 6 | Изменения условий продажи | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений |

| NN | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Наименование объекта | Здание [6] | Здание [4] | Здание [7] | Здание [7] | Незавершенное строительство свинофермы [8] | Здание бывшего коровника совхоза "Минская овощная фабрика" [9] | Незавершенное строительство здания телятника совхоза "Минская овощная фабрика" [9] | Контактный телефон: (017)220-66-24. |
| 2 | Местонахождение объекта в г.Минске | ул. Крупской | ул. Карастояновой,57 | ул. Плеханова, 38а | пр. Рокоссовского,113 а | д. Курганы, Минский р-н | д. Глебковичи, Минский р-н | д. Глебковичи, Минский р-н | |
| 3 | Начальная цена продажи | 585,00 | 261,00 | 495,00 | 296,00 | 23 000,00 | 616,00 | 2 032,00 | |
| 4 | Сумма залога (млн.руб) | 58,50 | 26,10 | 49,50 | 29,60 | 2 300,00 | 61,60 | 203,20 | |
| 5 | Изменения условий продажи | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | Без изменений | |

По объектам, указанным в графах 8 -12, покупатель оформляет технический паспорт на здание и акт землепользования. Информационное сообщение об объекте опубликовано: [1] в газете "Вечерний Минск" 29 сентября 1997г.; [2] в газете "Вечерний Минск" 27 октября 1997г.; [3] в газете "Республика" 23 августа 1997 г.; [4] в газете "Звезда" 27 января 1997 г.; [5] в газете "Республика" 24 мая 1996 г.; [6] в газете "Республика" 28 декабря 1996 г.; [7] в газете "Республика" 24 ноября 1995 г.; [8] в газете "Республика" 30 июля 1996 г.; [9] в газете "Звезда" 22 ноября 1997 г. Заявления на участие в аукционе принимаются по адресу: г. Минск, пр. Скорины, 8, комн. 225 с 9.00 до 18.00 по рабочим дням по 11 марта 1998 г. включительно. Контактный телефон :(017)220-66-24.

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 8 (126)

## ПРАДАЕЦЦА

❑ Дом цагляны, уч. 10 сотак, вадаправод, каналізацыя, лазня, гараж і інш. па лагойскім напрамку.
Тэл. (8-213) 7-12-43.

❑ Паляўнічае ружжо «ТОЗ-25», «ІЖ-58» (дазвол маецца), электрапомпа бытавая «Вадалей».
Тэл. 221-82-69.

❑ Паляўнічая стрэльба, 850 тыс. руб.
Тэл. у Паставах 2-26-26.

❑ Творы: І. Шамякін — 6 тамоў, І. Мележ — 8 тамоў, В. Быкаў — 4 тамы, руска-беларускі слоўнік — 3 тамы.
Тэл. у Лідзе 2-53-25.

❑ Матацыкл «Днепр» у добрым стане, «К-750» на з/ч, рухавік УД-2. Звяртацца: Віцебская вобл., г. Міёры, вул. Рабочая, д. 14-А.

❑ Катэдж 4-пакаёвы (2-гі паверх) у в. Слабада Ушацкага р-на, г/пабудовы, возера.
Звяртацца: г. Глыбокае, вул. Мінская, 74.

❑ Недабудаваны дом (матэрыял ёсць), газ, вада, каналізацыя, гараж.
Тэл. (8-218) 4-64-24.

❑ «Масквіч-2140» 1987 г. в., рамонт у 1997 г. у добрым стане — 900 у. а.
Тэл. у Капылі 4-71-97.

❑ Цагляны дом 9х10 з верандай, сталярка, столь, на астатняе маецца матэрыял.
Тэл. у Лельчыцкім раёне 3-14-07.

❑ Адводкі прадуктыўных няройлівых пчол.
Тэл.: (8-295) 7-64-84, 9-42-15, з 18.00.

❑ Кабыла, 3,5 года (Лепельскі раён).
Тэл. (8-232) 2-41-08.

❑ Дом з г/пабудовамі, сад, побач рэчка, лес (у в. Хацяж Ляхавіцкага р-на) — 1200 у. а.
Тэл. у Баранавічах 5-79-83.

❑ Дом з г/пабудовамі ў в. Сіняўка Клецкага раёна.
Тэл. 4-53-10, Гаўрыс.

❑ Дом з г/пабуд., гаражом у в. Няхачава Івацэвіцкага раёна. Побач электрычка.
Тэл. 4-72-79, 4-73-50. Клявец.

❑ Прадам або абмяняю на кабана жарэбку (узрост 1 год) у Слуцкім раёне.
Тэл. 7-73-05.

❑ Дом з г/пабуд., уч. 15 сотак, калодзеж у в. Урублеўшчына Валожынскага р-на, Гуд.

❑ Флуцыном (таблеткі), андракур (у ампулах).
Тэл. у Барысаве 5-30-73.

❑ Дом з г/пабуд., уч. 7 сотак у Навагрудку.
Тэл. у Карэлічах 2-22-43.

❑ Кватэра 1-пакаёвая, дом цагляны, 2 паверх, у Гомелі.
Тэл. (8-0232) 50-68-63.

❑ Дом з г/пабудовамі, уч. 10 сотак, лес, возера, у пас. Багушэўск.
Тэл. у Маладзечне 3-16-79.

❑ Дом з г/пабудовамі, уч. 15 сотак, сад і калодзеж у в. Іжа Вілейскага р-на.
Тэл. (8-271) 4-46-55.

❑ Дом, абложаны цэглай, з г/пабудовамі ў Вілейцы, зав. Каралёва, 1.

❑ Дом з г/пабудовамі ў Вілейскім раёне, цана дагаворная.
Тэл. у Вілейцы 5-23-35.

❑ Дом пад дачу, танна, у в. Нарач.
Тэл. у Вілейцы 4-43-27.

❑ Дом з г/пабудовамі, сад, агарод 40 сотак у в. Чалевічы Слуцкага р-на, або абмяняю на кватэру.
Тэл. у Мінску 240-29-16.

❑ Стары дом пад дачу ў в. Юшковічы Баранавіцкага раёна, уч. 36 сотак. Звяртацца: 225320, г. Баранавічы, зав. Клубны, 11-1, Сянько.

❑ Лецішча 4,5х4,5 пад знос.
Тэл. у Маладзечне 7-17-83 (раб.).

❑ Дом з г/пабудовамі (вада, ацяпленне).
Тэл. у Міёрскім раёне 2-54-48.

❑ Дом у в. Тальмінавічы Ляхавіцкага раёна.
Тэл. 5-47-45.

❑ Кватэра 3-пакаёвая ў Мядзелі (тэлефон, лоджыя, агарод).
Тэл. у Мядзелі 54-5-32.

❑ Рухавік да «ВАЗ-2101» на з/ч, цана дагаворная.
Тэл. (8-217) 4-16-55.

❑ «ВАЗ-2101», танна, у в. Карцэвічы.
Тэл. (8-270) 3-81-06 (акрамя панядз.) з 18 да 22.

❑ Рухавік «ЗАЗ-968» з КПП 30 к/с.
Тэл. у Вілейцы 5-79-14.

❑ Каляровы тэлевізар «Радуга-704» б/к у добрым стане.
Тэл. у Навагрудку: (8-01597) 2-28-58, 2-42-27.

❑ «ЗІЛ-130» 1984 г. в., самазвал, цана дагаворная.
Тэл. у Смаргонскім раёне 9-27-45, Шчасны.

❑ Юбілейныя рублі СССР.
Тэл. у Нясвіжскім раёне (8-270) 3-21-12.

❑ Шыны з дыскамі новыя, 220-508 (ГАЗ-52), 2 шт. — 120 у. а.
Тэл. у Міёрах 2-99-68 з 18.00.

❑ «БМВ-323» 1981 г. в., растаможаны, люк, магнітола, танна.
Тэл. 271-43-76.

❑ Пральная машына-аўтамат б/к 1 год.
Тэл. (8-272) 5-82-90.

❑ Вязальная машына «Чарніўчанка», новая.
Тэл. 232-80-49.

❑ «Опель-Аскона» 1979 г. в., 1,9 л, бензін, у добрым стане, капрамонт у 1997 г. — 1000 у. а.
Тэл. (8-272) 3-36-02.

## РОЗНАЕ

• Мяняю 1-пакаёвую кватэру ў г. Джанкой (Крым) на Гомель, Мінск ці іншыя гарады Беларусі або прадам.
Тэл. (8-0232) 48-94-78.

• Куплю даведнік па шахматных дэбютах.
Тэл. у Маладзечне 4-28-70, з 17.00.

• Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў Шчучыне на 2-пакаёвую ў Баранавічах, магчымы варыянты.
Тэл. у Шчучыне 2-49-74.

• Куплю жоўцевыя камяні.
Тэл. у Смаргоні 3-26-78.

• Куплю каленвал да матацыкла ЧЗ-350 тып 472.6.
Тэл. (8-297) 7-15-85, пасля 16.00.

• Мяняю дом з г/пабудовамі, сад, уч. 60 сотак на кватэру ў Полацку, Верхнядзвінску.
Тэл. у Міёрах 2-39-43.

• Мяняю дом (4 пакоі, тэлефон, сад, 11 сотак, гараж) у г. Слуцку на кватэру ў Мінску.
Тэл. у Мінску 273-08-68.

• Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў Паставах на 2-пакаёвую ў Маладзечне.
Тэл. у Паставах 2-51-97.

• Мяняю дом на Чорным моры на кватэру ў Мінску, Гомелі, Рэчыцы (дом прыватызаваны, уч. 17 сотак).
Тэл. у Рэчыцы 3-11-96.

• Куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, штатыў, экспанометр, значкі, старыя рэчы. Тэл. 253-24-41.

• Абмяняю ці прадам дом (палову дома) па Навагрудскаму напрамку.
Тэл. у Мінску 263-36-77.

• Мяняю новы цагляны дом з усімі выгодамі і г/пабудовамі ў в. Трылесіна Дрыбінскага раёна на кватэру ў Горках, Дрыбіне, Магілёве або Мінску, ці прадам.
Тэл. у Горках 2-37-40.

• Здам у арэнду гараж у Заводскім раёне г. Мінска.
Тэл. 266-41-91, з 19.00 да 22.00 гадзін.

• Мяняю цагляны дом з г/пабудовамі, тэлефонам, сад у в. Грэск Слуцкага раёна на 1- ці 1,5-пакаёвую кватэру ў Мінску.
Тэл. (8-295) 9-03-92 пасля 18.00.

• Патрэбен манеж напракат, імпартны не прапаноўваць.
Тэл. 237-33-40, да 20.00.

• Дарма, слоўнік руска-французскі, 50 тыс. слоў. Аплата — кошт перасылкі. Адрас: 224002, г. Брэст, вул. Жукава, д. 18, кв. 74.

*P. S. Паважаныя чытачы, пішыце правільна свае нумары тэлефонаў.*



## Асабістае жыццё

**Аб. 628.** Пазнаёмлюся з мужчынам да 55 гадоў без ш/з. Аб сабе: 46/166/65, пражываю ў гарадскім пасёлку ў 3-пакаёвай кватэры.

**Аб. 629.** Пазнаёмлюся з жанчынай да 45 гадоў. Аб сабе: 37/190/90, Сяргей, зараз знаходжуся ў месцах пазбаўлення волі.

**Аб. 630.** Сімпатычны малады хлопец пазнаёміцца з дзяўчынай для стварэння сям'і. Адкажу на ўсе лісты.

**Аб. 631.** Пазнаёмлюся з дзяўчынай да 22 гадоў для стварэння сям'і.
Аб сабе: 22/170/75, Васіль, без ш/з, Вадалей, працалюбівы, з Мінскай вобл.

**Аб. 632.** Пазнаёмлюся з мужчынам да 53 гадоў без ш/з, несудзімым. Мне 43 гады, рост 162, пражываю ў сельскай мясцовасці недалёка ад Мінска.

**Аб. 633.** Валянцін, 47/160/52, без ш/з, пазнаёміцца з жанчынай, не схільнай да паўнаты, для стварэння моцнай сям'і.

**Аб. 634.** Дзмітрый з карымі вачамі і вышэйшай адукацыяй, без матэрыяльных і жыллёвых праблем (24/176/70), жадае пазнаёміцца з дзяўчынай да 23 гадоў для сур'ёзных адносінаў. Пажадана фота. Чакаю.

**Аб. 635.** 40-гадовая жанчына з двума дзецьмі адкажа мужчыну да 46 гадоў, які не п'е, паважае жанчыну і працу. Пішыце: 222915, Мінская вобл., Старадарожскі р-н, в. Пасека, а/с 10к.

***P. S.* Для атрымання адраса абанента прысылайце канверт са сваім адрасам.**



# Краіна непалоханых інвестараў?

Паводле ацэнак незалежных экспертаў, аб'ём замежных інвестыцый у нашу эканоміку за мінулы год з улікам лізінгавых паставак не перавысіў 120 мільёнаў долараў. Сёння ў Беларусі зарэгістраваны 1133 сумесныя прадпрыемствы (рэальна дзейнічаюць 718), у тым ліку 582 замежныя прадпрыемствы са статутным капіталам 31,7 мільёна долараў. Тэмпы росту аб'ёмаў вытворчасці ў сумесных прадпрыемствах з замежным капіталам склалі ў мінулым годзе 156,8 працэнта адносна да года папярэдняга, а ўдзельная вага ў агульным аб'ёме вытворчасці ацэньваецца ў 2,3 працэнта.

Распрацаваны праект інвестыцыйнай праграмы на гэты год ставіць задачу давесці аб'ём замежных інвестыцый да 300 млн. долараў. Лічбы гэта немалыя і прыцягнуць такія грошы будзе няпроста. Але ёсць усё ж факты, якія лепш за ўсякія прагнозы і аналізы пераконваюць — усё ў нас атрымаецца. Нездарма ж мы знаходзімся на скрыжаванні шляхоў з Захаду на Усход, з Поўначы на Поўдзень! І ўжо сёння ў Беларусі працуюць чужаземцы, якія рэальна ўкладваюць грошы ў нашу эканоміку.

**У нашай дзяржаве, з яе пасапраўднаму моцнай выканаўчай уладай, здавалася б, засілле карупцыі інвестарам не пагражае. Як вынік — інвестары ідуць! І мы з гонарам называем тых, хто быў першым: «Кока-Кола», «МакДональдс», «Форд», «Ман»... «Філіпс» быццам бы да «Гарызонта» прыглядаецца, «ДЭУ», здаецца, некага ацэньвае... Вось толькі пальцы на руках пасля пералічэння інвестараў застаюцца да канца не загнутымі...**

### ПОЛЬСКІ «БУРАЦІНА»?

Жыве ў Варшаве Рудольф Скаўронскі. «Працаголік», як кажуць пра яго калегі. Пачынае ён свой рабочы дзень у восем раніцы, а дадому ідзе тады, калі ў вокнах ужо гасне святло. Чалавек ён вельмі таварыскі, шчыры і вельмі дзелавы. Усе справы, за якія бярэцца, даводзіць да лагічнага завяршэння. А яшчэ заўсёды адкрыты для любых цікавых бізнес-прапаноў. Як вынік — сёння холдынг «Інтэр Камерц», прэзідэнтам якога з'яўляецца пан Скаўронскі, уваходзіць у рэйтынг 150 самых багатых фірмаў Польшчы.

А ў Мінску жыве і працуе грамадзянін Польшчы Аляксандр Ратаеўскі, генеральны дырэктар замежнага прадпрыемства «ІК Фор Шопс» — прадстаўніцтва холдынга «Інтэр Камерц» на Беларусі, якое ціха і мірна займаецца тым, што ўкладвае грошы пана Скаўронскага ў нашу эканоміку.

18 фірмаў, якія ўваходзяць у састаў холдынга «Інтэр Камерц», займаюцца вырабам і продажам гандлёвага абсталявання, паліграфіяй, вытворчасцю касавых апаратаў і камп'ютэраў, будаўніцтвам, перапрацоўкай сельскагаспадарчай прадукцыі і вытворчасцю прадуктаў харчавання. Прадстаўніцтвы холдынга, акрамя Мінска, ёсць у многіх гарадах самой Польшчы, а таксама ў Маскве і Кіеве, Берліне і Лондане.

«ІК» — буйны інвестар і ў сябе ў краіне. У Варшаве на холдынг працуюць сорак архітэктараў, якія забяспечваюць поўны цыкл работ — ад пошуку і пакупкі зямлі да праектавання і будаўніцтва аб'ектаў. Натуральна, што «ІК» не мог не зацікавіцца гандлем — у Польшчы пабудаваны ўжо тузін супермаркетаў гэтай фірмы. Вядомы варшаўскі супермаркет «Хіт», напрыклад, — дзецішча «Інтэр Камерц».

Таму і ў нас, у Беларусі, Ратаеўскі заняўся развіццём гандлёвай сеткі. «ІК Фор Шопс» працуе тут ужо шосты год, і зроблена за гэты час нямала. На краіне разгорнута сетка дыстрыб'ютараў, 17 фірменных аўтамабіляў і агульная камп'ютэрная сетка фірмы працуюць на бесперабойнае забеспячэнне беларускіх магазінаў марожаным, а таксама замарожанымі садавінай і агароднінай.

Ці ўзяць, напрыклад, ужо рэалізаваны праект фірмы — універсам «Ля кургана» на мінскім праспекце Любімава. Гэты магазін — сумеснае беларуска-польскае прадпрыемства, якое з'яўляецца выдатным доказам таго, наколькі эфектыўна спрацаваў прыватны польскі капітал на беларускай зямлі. Фірма ўклала сюды 550 тысяч долараў, забяспечыла працай 110 нашых грамадзян, і Мінгандаль, як кажуць, водзіць сюды экскурсіі — маўляў, вось як трэба працаваць, вось як трэба арганізоўваць гандаль.

«Вяртаць грошы, забіраць іх з вытворчасці пан Скаўронскі, як гаспадар «ІК» не зацікаўлены, — гаворыць пан Ратаеўскі. — Польскі бок не просіць сваю долю, таму што мы думаем пра будучыню».

Ужо рыхтуюцца дакументы аб стварэнні падобных прадпрыемстваў на базе яшчэ двух мінскіх магазінаў, а наогул у планах фірмы тут, у сталіцы Беларусі, — будаўніцтва чатырох супермаркетаў, аналагічных «Хіту», ля кальцавой аўтадарогі па ўсяму перыметру горада. Кошт аднаго такога магазіна з усімі камунікацыямі, стаянкамі і пад'язнымі дарогамі — каля 12 мільёнаў долараў. Хто ўмее лічыць, хутка зразумее, што «ІК» збіраецца ўкласці ў гэтую справу ў пяць разоў больш, чым прынёс да нас той жа «МакДональдс».

Гэтыя планы маглі б здацца фантастычнымі, калі б не тая сур'ёзнасць, з якой падыходзяць да справы Ратаеўскі. «Мы зацікаўлены ў тым, каб спыніць прывоз сюды многіх прадуктаў з Польшчы», — гаворыць ён. — Трэба займацца вытворчасцю тут, на месцы, з мясцовай сыравіны».

Ён не блефуе і нічога не абяцае ўпустую — улетку мінулага года ў пасёлку Білева Віцебскай вобласці фірма ўзяла ў арэнду цэх у кандытарскага прадпрыемства «Віцьба». На сённяшні дзень у рэканструкцыю і рамонт гэтага будынка ўкладзены мільён долараў. Вясной плануецца пастаўка абсталявання для вытворчасці марожанага, а ўжо к лету — першая партыя прадукцыі. Аб'ём інвестыцый толькі на гэтым аб'екце дасягне 5 мільёнаў долараў. «Гэта будзе завод XXI стагоддзя», — гаворыць Ратаеўскі. — Мы закупляем самае сучаснае італьянскае абсталяванне, і наша марожанае будзе адпавядаць лепшым сусветным стандартам. Па смаку і якасці яно ніяк не будзе ўступаць прадукцыі «Баскін Робінс» ці «Марс», затое па цане...»

Аляксандр Ратаеўскі за цану ўпэўнены — марожанае, па яго задумках, будзе выраблацца на мясцовай сыравіне, а таму будзе танней за аналагі. Ужо сёння ідзе падбор пастаўшчыкоў сухога малака, садавіны. У сезон на заводзе будзе працаваць 350, зімой жа — 175 рабочых, якія пройдуць абавязковую стажыроўку ў Польшчы.

У бліжэйшай перспектыве — будаўніцтва завода па вытворчасці замарожаных садавіны і агародніны. «Адсюль, з Беларусі, мы павядзём наступленне на Маскву, на расійскі рынак, — гаворыць Ратаеўскі. — Беларускае марожанае і плодаагародніная прадукцыя нашай вытворчасці дзякуючы сваёй якасці і цане будуць выдатна прадавацца ў Расіі. Мы, калі можна так сказаць, будзем спрыяць эканамічнай інтэграцыі Беларусі і Расіі з дапамогай польскага капіталу». Жартуе? Не, ён проста пралічвае многае наперад і прафесійна займаецца рэальнай справай.

### «ПОЛЕ ЦУДАЎ» ПАД НАЗВАЙ БЕЛАРУСЬ...

Утрымацца ад «правакацыйных» пытанняў аб неспрыяльным інвестыцыйным клімаце і аб нестабільнасці беларускай эканомікі, прызнаюся, было цяжка. Але Аляксандр Ратаеўскі застаўся спакойным:

— Гаспадар холдынга Рудольф Скаўронскі, і я з ім цалкам згодзен, лічыць, што мы займаемся бізнесам, а не палітыкай. Беларусь — нармальная краіна па частцы магчымасці развіцця тут бізнесу, па абароненасці інвестыцый. Маё ўражанне ад вашай краіны самае спрыяльнае. Мы ж не просім сабе ніякіх патуранняў ці падатковых ільгот. Мы не бачым ніякіх праблем, каб не працаваць тут. А цяжкасці ж існуюць у Польшчы, у Германіі, і ў любой іншай краіне...

Што ж, палякі працуюць, укладваюць грошы і атрымліваюць, у выніку, прыбытак. А што дае Беларусі прыватны польскі інвестар? Капіталаўкладанні — гэта раз. Ні будучы завод, ні існуючыя і праектуемыя магазіны з нашай зямлі ўжо не знікнуць. Рабочыя месцы з дастойнай і гарантаванай аплатай працы (дарэчы, набор рабочых на той жа завод па вытворчасці марожанага будзе весціся па конкурсу) — два. Элементарныя падаткі — тры. За студзень, напрыклад, гэтая замежная фірма заплаціла нашай дзяржаве мільярд рублёў у выглядзе ПДВ і пошлін. Развіццё вытворчасці ў сумежнікаў і пастаўшчыкоў (тое ж сухое малако, тыя ж садавіна і агародніна — чатыры. З'яўленне найноўшых і канкурэнтаздольных тэхналогій у нашай эканоміцы і выпуск прадукцыі сусветнага, экспартнага ўзроўню — гэта пяць...

Мы палічылі да пяці, а палякі тым часам ужо «закопваюць» свой капітал у нашу зямлю. Гэта ў казцы на «полі цудаў» з раскапаных грошай не вырастае нічога. У эканоміцы вырасці хоць нешта можа толькі пасля ўкладання тых самых залатых манет (ці злотых, як у нашым выпадку), толькі не трэба перашкаджаць гэтым першым, яшчэ нясмелым у маштабах нашай краіны, залатаносным парасткам.

Беларусь для знешняга інвестара, па вялікаму рахунку, — «неараная» зямля. Можна быць упэўненым, што ўслед за «ІК», «МакДональдсам», «Кока-Колай» прыйдуць іншыя. Мы — краіна яшчэ непалоханых інвестараў. Не спудзіць бы іх з нашага «поля цудаў»...

**Цімафей КОНЕЎ.**

*Вырабы гэтага аб'яднання сёння добра вядомыя далёка за межамі Віцебшчыны. У Мінск і абласныя цэнтры Рэспублікі Беларусь, Расію і прыбалтыйскія дзяржавы ідзе прадукцыя заводаў і фабрык «Віцебскхарчпрама». Кандытарскія і лікёра-гарэлачныя вырабы, кансервы і піва, сушаная садавіна і крухмал, прадукты з бульбы — дзесяткі найменняў вырабаў віцебскіх харчавікоў знайшлі пастаянных спажыўцоў.*

*На большасці прадпрыемстваў вытворчага аб'яднання працуюць зладжаныя і стабільныя калектывы. Людзі ведаюць і любяць сваю справу, на кожным рабочым месцы імкнуцца дасягаць як мага лепшых паказчыкаў. І ў гэтым, лічаць кіраўнікі ўсіх без выключэння падраздзяленняў, адна з галоўных гарантый устойлівых фінансава-эканамічных паказчыкаў.*

*Адным словам, і мінулы год, і першыя два месяцы 1998-га паказалі: «Віцебскхарчпрам» у цэлым і пераважная большасць заводаў, фабрык і камбінатаў — на правільным шляху. Аднак гэта акалічнасць зусім не самазаспакойвае рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых аб'яднання. Яны выдатна ўсведамляюць: каб не адстаць ад растучых запатрабаванняў спажыўцоў прадукцыі, крочыць, што называецца, у нагу з часам, трэба яшчэ вельмі і вельмі шмат працаваць.*

*Аб набытках і здзяйсненнях вытворчага аб'яднання «Віцебскхарчпрам», лепшых калектывах і асобных працаўніках, планах і намерах на блізкую і аддаленую перспектыву расказвае генеральны дырэктар аб'яднання* ***Міхаіл Уладзіміравіч ВАСІЛЕЎСКІ.***

## Візітная картка аб'яднання

**Віцебскае абласное гаспадарчаразліковае вытворчае аб'яднанне харчовай прамысловасці (ВА «Віцебскхарчпрам») створана ў 1986 годзе як добраахвотнае аб'яднанне прадпрыемстваў-вытворцаў па галіноваму прынцыпу.**
**У цяперашні час у яго састаў уваходзяць 22 падраздзяленні. Толькі за мінулы год рады «Віцебскхарчпрама» папоўніліся чатырма перспектыўнымі буйнымі вытворчымі калектывамі. Таксама летась па рашэнню Савета дырэктараў створана асобная маркетынгавая служба — вытворча-гандлёвы цэнтр «Вітон», які разгарнуў даволі актыўную дзейнасць. Нядаўна ў састаў аб'яднання прыняты яшчэ два ўдзельнікі з недзяржаўнай формай уласнасці.**

**На прадпрыемствах аб'яднання працуюць больш як тры з паловай тысячы чалавек.**

**За 1997 год у цэлым па аб'яднанню дасягнуты рост аб'ёмаў вытворчасці ў супастаўных цэнах да ўзроўню 1996 года на 137,4 працэнта. Прырост аб'ёмаў дасягнуты за кошт павелічэння выпуску пладовых моцных напояў на 784 тыс. дал., ці на 93,8 працэнта, кандытарскіх вырабаў — на 2212 тон, ці 94,3 працэнта, піва — на 186,0 тыс. дал., ці 9,6 працэнта, плодаагароднінных кансерваў — на 2171 туб., ці 16,7 працэнта, прадуктаў з бульбы — на 147 тон, ці 99,3 працэнта, гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў — на 93,0 тыс. дал., ці 6,2 працэнта.**

**Прадукцыйнасць працы ў цэлым па аб'яднанню вырасла на 130 працэнтаў.**

**Сярэднямесячная заработная плата ў 1997 годзе склала па аб'яднанню 2 мільёны 592,3 тысячы рублёў.**

## *Міхаіл ВАСІЛЕЎСКІ:*

# «Паказчыкі вытворчай дзейнасці сведчаць: наша галіна проста неабходная народнагаспадарчаму комплексу рэспублікі»

— Вытворчыя магутнасці Віцебскага абласнога гаспадарчаразліковага аб'яднання харчовай прамысловасці сёння даволі вялікія і дасканалыя. Так, па выпуску гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў яны разлічаны на 2410 тысяч дал., віна — 2030 тысяч дал., кандытарскіх вырабаў — 6990 тон, піва — 3879 тысяч дал., кансерваў плодаагароднінных — 42.655 туб., спірту-рэктыфікату — 1678 тысяч дал., сушанай агародніны і бульбы — 600 тон, прадуктаў з бульбы — 660 тон, сухога крухмалу — 1800 тон. Ужо адзін пералік аб'ёмаў пераконвае: вытворчасць наша не тое што патрэбная, яна проста неабходная ў штодзённай дзейнасці народнагаспадарчага комплексу.

Утрымацца на такіх рубяжах сёння, вядома ж, няпроста. Усім нам стратэгічная лінія штодзённай дзейнасці бачыцца найперш у мадэрнізацыі абсталявання і механізмаў, абнаўленні асартыменту выпускаемай прадукцыі, паляпшэнні яе якасці, змяншэнні затрат на адзінку вырабаў, эканоміі энерга- і іншых відаў рэсурсаў. Іншага ў такіх складаных, неадназначных умовах, у якія трапіла эканоміка Рэспублікі Беларусь, проста не дадзена!

На працягу двух апошніх гадоў аб'яднанне паступова нарошчвае аб'ёмы вытворчасці. Тэмпы росту таварнай прадукцыі ў супастаўных цэнах за 1996 год склалі 109 працэнтаў да ўзроўню 1995-га, а за мінулы — 125 працэнтаў у параўнанні з 1996-м.

На жаль, сёння на прадпрыемствах «Віцебскхарчпрама» практычна поўнасцю выкарыстоўваюцца магутнасці толькі па вытворчасці спірту-рэктыфікату і віна. Па іншых відах прадукцыі магутнасці недазагружаюцца з-за недахвату ўласных абаротных сродкаў і кароткачасовых крэдытаў для набыцця сыравіны, матэрыялаў, паліва; пастаяннай запазычанасці гандлюючых арганізацый за адгружаную прадукцыю; змяншэння пакупніцкага попыту. Мы бачым і разумеем гэта, таму імкнёмся паўней скарыстоўваць іншыя рэзервы і магчымасці. У прыватнасці, у мэтах задавальнення попыту спажыўцоў і нарошчвання аб'ёмаў вытворчасці толькі за апошні час на прадпрыемствах праведзена наступная работа. На Гарадоцкім харчовым камбінаце адкрыты новы цэх па вытворчасці маянэзу магутнасцю 500 тон прадукцыі ў год. На Віцебскім кандытарскім камбінаце «Віцьба» наладжаны выраб вафельных батончыкаў і вафляў, здадзена ў эксплуатацыю лінія па вытворчасці пячэння. На Полацкім вінзаводзе асвоены выпуск белай гарэлкі ў экспартным афармленні. На Чашніцкім заводзе харчовых прадуктаў установлена рэктыфікацыйная калона, асвоены выпуск спірту, а на Віцебскім піўзаводзе — вытворчасць моцных пладовых напояў. Новыя магутнасці асвоены таксама на Лёзненскім кансервава-агароднінасушыльным заводзе, віцебскіх лікёра-гарэлачным заводзе і эксперыментальным плодаагароднінным камбінаце, Лынтупскім спіртзаводзе.

З году ў год, з квартала ў квартал вялікую ўвагу мы ўдзяляем расшырэнню і абнаўленню асартыменту выпускаемай прадукцыі. Разам з тым пастаянна імкнёмся павышаць якасць, паляпшаць афармленне вырабаў. Асваенне новых відаў прадукцыі на прадпрыемствах аб'яднання за апошнія тры гады выглядае наступным чынам:

| | 1995 г. | 1996 г. | 1997 г. |
|---|---|---|---|
| | (колькасць назваў) | | |
| Кансервы плода-агароднінныя | 11 | 20 | 18 |
| Кандытарскія вырабы | 7 | 6 | 20 |
| Прадукты з кукурузы і іншых зерневых культур | 3 | 2 | 4 |
| Гарэлка і лікёра-гарэлачныя вырабы | 9 | 10 | 12 |
| Віно пладовае | 8 | 11 | 21 |
| Піва | 8 | 11 | 10 |

Не сакрэт, што апошнім часам унутры нашай рэспублікі змяншаецца пакупніцкі попыт на вырабы нашых заводаў, фабрык і камбінатаў. Гэта акалічнасць сама па сабе прымусіла нас шукаць выхады на знешні спажывецкі рынак. А гэта, у сваю чаргу, зноў жа клопаты аб расшырэнні і абнаўленні асартыменту, павышэнні якасці, паляпшэнні афармлення выпускаемай прадукцыі. Думаю, чытачам «Звязды» будзе цікава даведацца аб маштабах рэалізацыі вырабаў «Віцебскхарчпрама» за межы Рэспублікі Беларусь:

| | 1995 г. | 1996 г. | 1997 г. |
|---|---|---|---|
| Кансервы плода-агароднінныя, туб. | 6144 | 2000 | 984,2 |
| Гарэлка і лікёра-гарэлачныя вырабы, тысяч дал. | 382 | 211 | 0,26 |
| Піва, тысяч дал. | 426 | 419 | 643,0 |
| Кандытарскія вырабы, тон | 107 | 112 | 1072,8 |
| Віно вінаграднае, тысяч дал. | — | 1,0 | 8,2 |
| Віно пладовае тысяч дал. | 45 | — | 14,5 |
| Сушаная бульба, тон | 20 | — | 164,7 |
| Мінеральная вада, тысяч бутэлек | 85 | 339 | 284,6 |

Так выглядаюць рубяжы, якія намі ўжо ўзяты. Аднак жыць днём учарашнім, спачываць на лаўрах нельга, ды і само жыццё — самы строгі арбітр і экзаменатар — не дазволіць гэтага рабіць. Таму перспектыву развіцця і аб'яднання ў цэлым, і літаральна кожнага вытворчага падраздзялення мы бачым сёння выразна і канкрэтна.

Пачынаючы ўжо з сёлетняга года маем намер перавесці кацельні на газ на Чашніцкім заводзе харчовых прадуктаў, віцебскіх лікёра-гарэлачным, кансервавым і піўным заводах, Багушэўскім спіртзаводзе. У недалёкай перспектыве будзе рэканструяваны Дзісненскі кансервавы завод, пабудаваны кацельні на Лёзненскім кансервава-агароднінасушыльным і Полацкім піўным заводах, Віцебскім эксперыментальным плодаагароднінным камбінаце.

Хачу больш падрабязна спыніцца на некалькіх навінках з нашага будучага, ужо зусім недалёкага асартыменту вырабаў. Тым больш, што яны — я асабіста ў гэтым ніколькі не сумняваюся — выклічуць у чытачоў зацікаўленасць і жаданне як мага хутчэй убачыць гэту прадукцыю ў сябе на стале.

Размова найперш ідзе пра будучую прадукцыю зусім новай, але надзвычай перспектыўнай галіны — грыбаводства. У мэтах павелічэння вытворчасці і пашырэння асартыменту прадуктаў харчавання, выкарыстання пустуючых памяшканняў, комплекснай перапрацоўкі сыравіны Віцебскім абласным упраўленнем сельскай гаспадаркі і харчавання створана Віцебска-Лёзненская гандлёва-аграрная грыбаводчая асацыяцыя. Яе заснавальнікамі сталі вытворчае аб'яднанне «Віцебскхарчпрам», Лёзненскі кансервава-агароднінасушыльны завод і Віцебскі МЭЗ.

Работы па разгортванню вытворчасці грыбоў «вешанак» ужо ідуць поўным ходам. Яны будуць вырошчвацца ў агароднінасховішчы Лёзненскага завода. Забеспячэнне пасадачным матэрыялам гарантуе лабараторыя Віцебскага МЭЗа. Сумесна з Інстытутам мікрабіялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў грыбаводчым цэху ўпершыню ў нашай рэспубліцы выкарыстаны метад аэробнай ферментацыі субстрату, што дазволіць павысіць ураджайнасць, а значыць і эфектыўнасць вытворчасці на 50—60 працэнтаў. Паводле папярэдніх разлікаў, рэнтабельнасць вытворчасці складзе звыш 77 працэнтаў.

Асноўныя будаўнічыя работы зараз знаходзяцца ў стадыі завяршэння. Аднак для хутчэйшага ўводу цэха, набыцця неабходнага абсталявання, сыравіны і матэрыялаў нам патрэбны яшчэ значныя капітальныя ўкладанні. Мы звярнуліся з просьбай да старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзіміра Паўлавіча Андрэйчанкі, каб ён паспрыяў нам у выдзяленні 1 мільярда рублёў для завяршэння такой патрэбнай і карыснай справы. Думаем, абласныя ўлады нас абавязкова падтрымаюць.

Дарэчы, планы і задумы ў асацыяцыі «Вілгандальаграс» добрыя і маштабныя. Яе кіраўніцтва мае намер арганізаваць падобныя грыбаводчыя цэхі на іншых прадпрыемствах нашага аб'яднання, адкрыць у абласным цэнтры фірменны магазін, пастаўляць прадукцыю за межы Віцебшчыны. Думаем, у асацыяцыі справы пойдуць добра.

Другая наша харчовая навінка — замарожаныя ягады і супавыя наборы з агародніны. Спецыяльны цэх па вытворчасці гэтай прадукцыі здадзены ў эксплуатацыю на Віцебскім эксперыментальным плодаагароднінным камбінаце. Ужо ў мінулым годзе прадпрыемствам выраблена каля 370 тон прадукцыі. А сёлета будзе ў дзесяць разоў больш! З сыравінай праблем не прадбачыцца: на перапрацоўку пойдуць дары нашых лясоў, садоў, агародаў... Тым не менш, рыхтуем мы сябе і да вырашэння праблем, якія могуць узнікнуць у разгар нарыхтоўчага і перапрацоўчага сезона. Пад закуп у насельніцтва ягад, садавіны і агародніны спатрэбяцца вялікія грашовыя крэдыты, і дзе іх узяць — можа ўзнікнуць пытанне. Другая праблема — цукар для перапрацоўкі сыравіны. На зыходзе лета—пачатку восені заводы па вытворчасці цукру будуць, як вядома, яшчэ прастойваць, а нам ён якраз будзе так патрэбны... Хочацца спадзявацца, што і ў вырашэнні гэтых пытанняў мы знойдзем разуменне не толькі ў мясцовых уладаў, але і на рэспубліканскім узроўні. Тым больш, што выраблена й на Віцебскім камбінаце прадукцыі хопіць практычна на ўсю Беларусь.



*Генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «Віцебск-харчпрам» Міхаіл ВАСІЛЕЎСКІ*

І, нарэшце, трэцяя навінка — дзіцячае харчаванне. Не трэба, відаць, зноў і зноў казаць, якая гэта балючая праблема для нашай рэспублікі! Харчаванне для дзяцей — экалагічна чыстага, смачнага — сёння так не хапае. Бачачы і адчуваючы гэта, мы пераабсталявалі завод па перапрацоўцы бульбы, што знаходзіцца ў прыгарадным саўгасе «Рудакова», на выпуск дзіцячага харчавання. Летась тут выраблі 40 мільёнаў умоўных бляшанак яблычнага і маркоўнага пюрэ. Рынак збыту — таксама толькі дай!

Разумею; крыху стаміў чытача... Але ж, не сумняваюся, пераканаў: працаваць мы не развучыліся, рабіць прадукцыю — сучасную, якасную, так усім і кожнаму патрэбную — таксама ўмеем. І гэта найбольш радуе і задавальняе мяне як кіраўніка.

А за гэтымі набыткамі і дасягненнямі — людзі. І сёння — я перакананы! — будзе проста недаравальна не назваць нашы лепшыя калектывы, іх кіраўнікоў і, вядома ж, радавых работнікаў, тых, на каго трымаюць раўненне ў вытворчым аб'яднанні «Віцебскхарчпрам».

Паспяхова выканалі вытворчыя заданні 1997 года, узялі добры старт у годзе сёлетнім калектывы кандытарскага камбіната «Віцьба» (дырэктар Аляксандр Іванавіч Гідрановіч), Падсвільскага завода харчовых прадуктаў (дырэктар Валерый Іванавіч Акуленка), Талачынскага кансервавага завода (дырэктар Павел Радзівонавіч Лявонаў), Віцебскага і Полацкага піўзаводаў (дырэктары Уладзімір Савіч Патапаў і Юрый Аляксандравіч Грыгор'еў), Лынтупскага спіртзавода (дырэктар Уладзімір Андрэевіч Ісачанка), Полацкага вінзавода (дырэктар Канстанцін Іванавіч Крывёнак), Глыбоцкага кансервавага завода (дырэктар Уладзімір Дзмітрыевіч Гаўрылаў), Чашніцкага завода харчовых прадуктаў (дырэктар Уладзімір Мікалаевіч Шабетнік). Стабільная вытворчая дзейнасць гэтых калектываў дазваляе людзям своечасова атрымліваць неблагую заработную плату, наогул быць упэўненымі ў заўтрашнім дні. Тут невысокія непрадукцыйныя страты рабочага часу, няма даўгоў за энерганосьбіты.

Ёсць тут і на каго раўняцца. На кандытарскім камбінаце «Віцьба» гэта слесар-рамонтнік Валерый Васільевіч Чалы і кладаўшчыца Альбіна Ермалаеўна Смірнова; Глыбоцкім кансервавым заводзе — слесар-рамонтнік Казімір Іванавіч Гінько; Полацкім вінзаводзе — машыніст кампрэсарнай установкі Рыгор Іванавіч Маскаленка; Падсвільскім заводзе харчовых прадуктаў — кантралёр гатовай прадукцыі Ала Фёдараўна Сцяпанава; Віцебскім піўзаводзе — электрык Міхаіл Міхайлавіч Мароз і машыніст разлівачна-закаркавачнай машыны Ала Фёдараўна Яфімцава... І такіх шчырых і сумленных працаўнікоў у нас у галіне дзесяткі і нават сотні.

Асобна хачу спыніцца на вытворчай і фінансавай дзейнасці аднаго з лепшых нашых падраздзяленняў — Талачынскага кансервавага завода. Шмат гадоў гэты дружны працалюбівы калектыў узначальвае Павел Радзівонавіч Лявонаў — умелы і таленавіты арганізатар заводскай вытворчасці, шчыры і спагадлівы кіраўнік, чалавек і старэйшы таварыш. І для самога Паўла Радзівонавіча, і для большасці ягоных падначаленых сакрэтаў у вытворчай дзейнасці зусім няма. У мінулым годзе аб'ём прамысловай прадукцыі на заводзе склаў у супастаўных цэнах 96 мільярдаў 450 мільёнаў рублёў (тэмпы росту — 122,4 працэнта). Выпушчана тавараў народнага спажывання на 135 мільярдаў 942 мільёны рублёў. У параўнанні з папярэднім годам прыбытак вырас у 1,9 раза. Для патрэб вытворчасці тут было нарыхтавана 3115 тон яблыкаў, 81 тона чарніц, 87 тон чырвоных парэчак.

Ганарацца на Талачынскім кансервавым працоўнымі набыткамі многіх работнікаў, аднак практычна заўсёды тут адзначаюць апрацоўшчыцу сыравіны Марыну Махайлаўну Саркісян, машыніста Алу Пятроўну Дрангоўскую, рабочую Святлану Аляксандраўну Лапянок, вадзіцеля Леаніда Васільевіча Іванова.

І апошняе — адносна перспектыў прыватызацыі, акцыяніравання і структурызацыі прадпрыемстваў і аб'яднання «Віцебскхарчпрам» у цэлым. Шэраг нашых заводаў, камбінатаў, якія адносяцца да кансервавай галіны, у цяперашні час унесены ў спіс прадпрыемстваў, што падлягаюць прыватызацыі. Аднак папярэдне праведзеныя агульныя сходы працоўных паказалі, што людзі катэгарычна супраць прыватызацыі. І яны маюць на тое права. Немэтазгоднай уяўляецца нам і рэструктурызацыя аб'яднання: большасць нашых вытворчых калектываў дзейнічаюць у рамках дзяржаўнай манаполіі на выпускаемую імі прадукцыю. Ды і працуюць яны стабільна, па сутнасці без зрываў. Дык ці не лепш так, як ёсць, бо, шукаючы пірага, і хлеб згубіш.

**Старонку падрыхтаваў**
**Анатоль МЯСНІКОЎ.**
*Мінск—Віцебск—Талачын.*

Рэспубліка Беларусь, 210001, г. Віцебск, вуліца Рэвалюцыйная, 45.
Вытворчае аб'яднанне «ВІЦЕБСКХАРЧПРАМ».
Тэл.: (021) 36-41-31, 36-21-98, 36-60-18
Факс 37-46-66.

**Сялянская грамада ў беларускай вёсцы мінулага стагоддзя ніколі не пакідала без увагі такую падзею, як нараджэнне дзіцяці, бо яна, таксама як і бацькі, была зацікаўлена ў з'яўленні на свет фізічна і псіхічна здаровага чалавека, будучага работніка.**

# АДВЕДКІ

НАЙБОЛЬШУЮ ЎВАГУ парадзісе аказвала бабка як прадстаўнік сялянскай грамады. Звычайна парадзіха, калі роды прайшлі паспяхова, знаходзілася ў ложку ад трох да сямі дзён. І ўвесь гэты час, асабліва калі парадзіха была адзінай дарослай жанчынай у малой сям'і, бабка прыходзіла ёй на дапамогу, гатавала ежу, купала нованароджанага, даглядала старэйшых дзяцей. Па традыцыі ежу яна несла з дому, абавязкова ў гаршках, і на вёсцы, убачыўшы яе, аднавяскоўцы казалі: «Во, баба ідзе з гаршкамі», што азначала: «Баба ідзе наведваць парадзіху». У абрадавых дзеяннях бабкі ўвесь час прысутнічала магічная лічба «3»: яна павінна была тры дні пасля родаў насіць тры разы на дзень па тры стравы.

У хуткім часе пасля родаў да парадзіхі прыходзілі ў адведкі замужнія жанчыны — сваячкі і сяброўкі. Пасля дэталёвага знаёмства са звычаямі і абрадамі наведвання асабліва ўражвае народная мудрасць і тактоўнасць. Мяркуйце самі. Каб не стамляць парадзіху, у адведкі жанчыны хадзілі па дзве-тры, прыносілі самыя каларыйныя і смачныя стравы. Зноў жа, парадзісе, якая толькі што перажыла мукі родаў, боль, страх, хацелася пра ўсё гэта расказаць, выслухаць словы спачування, параду, а хто гэта мог лепей зрабіць, чым замужнія жанчыны? Пагэтаму, згодна з традыцыяй, наведваць парадзіху ніколі не хадзілі незамужнія дзяўчаты і мужчыны. Ісці наведваць парадзіху ні ў якім разе нельга было з пустымі рукамі, таму нават самыя бедныя неслі хоць кавалак хлеба і якую-небудзь старызну на пялёнкі. На Палессі сярод шматлікіх страў жанчыны неслі спецыяльную абрадавую — «узвар» (кампот з сушаных чарніц, яблыкаў, сліў), адсюль, верагодна, і палеская назва адведак — «несці звар».

На Беларусі ў азначаны перыяд выкананне звычаяў наведвання строга кантралявалася грамадскай думкай пэўнага калектыву. Так, рэзка асуджалася жанчына, якая не наведвала парадзіх, што ў свой час з аналагічнай мэтай прыходзілі да яе. На Віцебшчыне, напрыклад, пра такіх жанчын з іроніяй гаварылі: «Яна багата, спясіва, чванавата, нас і знаць ня хочыць». У народнай этыцы былі выпрацаваны і для жанчын, што прыйшлі ў адведкі, і для парадзіхі пэўныя правілы паводзінаў. Па сведчанню этнаграфічных матэрыялаў, парадзіха, хоць бы яна і была ўжо на той час здарова, убачыўшы гасцей, павінна была ўсё кінуць і хуценька легчы ў ложак. Так яна абавязана была прымаць кожную наведвальніцу аж да хрышчэння дзіцяці. Жанчыны аддавалі ежу з разнастайнымі пажаданнямі: «Малае прыміця, а на большае выбачайце», «з'еш, каб заклалася месца ў жываце», «Што выйшла з радзільніцы, то штоб папоўнілася». Парадзіха ж, у сваю чаргу, як прынясуць ёй якую страву, павінна была тут жа яе пакаштаваць і пахваліць. Па народнаму ўяўленню, гэта неабходна было зрабіць, каб самой парадзісе хутчэй устаць на ногі, акрэпнуць, а ў дзіцяці каб добра раслі зубкі, не мучылі яго доўга.

У час наведвання звычаем не прадугледжвалася застолле для жанчын, што і зразумела, улічваючы стан здароўя парадзіхі. Звычайна яна частавала («адорвала») жанчын гарбузікамі, сушанымі чарніцамі, арэхамі. Але ў некаторых сем'ях для тых, хто прыйшоў у адведкі, ладзілі невялікае частаванне. У гэтым выпадку гаспадарыў за сталом («прыслужваў») муж парадзіхі. Ён быў адзіны мужчына на гэтай урачыстасці, калі ж выпадкова ў дадзены момант у хату заскокваў сусед або сваяк, тут ужо яму даставалася ад жанчын, якія ўсяляк з яго кпілі, а ў канцы зрывалі шапку з галавы і выганялі з хаты. Але і пасля гэтага не супакойваліся жанчыны: яны расказвалі пра недарэку на вёсцы, і з яго доўгі час смяяліся нават дзеці: «пуп аблізаў, пуп аблізаў».

Жанчыны знаходзіліся ў адведках па некалькі гадзін, але, барані Божа, ніводная з іх нават не падыходзіла да немаўляці, нічога пра яго не распытвала, каб не пашкодзіць яго здароўю, не сурочыць. Нягледзячы на гэта, бабка ўсё роўна ўвесь час наведвання знаходзілася пры дзіцяці, як бы ахоўвала яго. Шкоду парадзісе і дзіцяці, па народнаму меркаванню, маглі нанесці жанчыны з цёмнымі карымі вачыма, цяжарныя і жанчыны, у якіх у гэты час была менструацыя.

На чацвёрты або пяты дзень у дзіцяці адвальвалася падсохлая пупавіна («пупок»). Маці загортвала яе ў кавалак тканіны і хавала ў куфар ці запіхвала ў дзірку, спецыяльна прасвідраваную для гэтай мэты ў сцяне хаты, «каб дзіця не скідвалася з лаў». Часцей за ўсё вузельчык з пупком захоўвалі ў хаце за бэлькай (трамай). На Палессі, па сведчанню А. Сержпутоўскага, для таго, каб усе дзеці ў сям'і жылі паміж сабой у згодзе, маці падмешвала ім у ежу па кавалачку ад пупка кожнага дзіцяці. На ўсёй тэрыторыі Беларусі быў распаўсюджаны наступны звычай: калі дзіцяці спаўнялася тры гады або, часцей, шэсць ці сем гадоў, яму давалі вузельчык з пупавінай развязаць, разматаць, «каб сабе розум развязаць». На Віцебшчыне пупавіну захоўвалі доўгі час, а калі хлопец ішоў служыць у войска, а дзяўчына — замуж, ім аддавалі яе, каб усё жыццё шчаслівыя былі і за сценамі бацькоўскага дома.

Тым часам дзіця дзень за днём падрастала, а ў бацькоў прыбаўлялася клопатаў. Паступова рыхтаваліся да хрэсьбінаў, меркавалі, каго ўзяць за кумоў, якое імя даць дзіцяці. Хоць, праўду сказаць, турбот у тагачасных бацькоў з гэтай нагоды было значна меней, чым зараз, бо ў мінулым стагоддзі асноўную ролю пры імянарачэнні дзіцяці адыгрывала царква. Згодна з царкоўнымі законамі, у час хрышчэння давалі новаму хрысціяніну імя, выбіраючы яго з календара, з імён святых, што прыпадалі на адпаведны нараджэнню ці блізкія да яго дні. Але адначасова працягвалі існаваць у вясковым побыце і старадаўнія звычаі і абрады.

Як сведчаць этнаграфічныя матэрыялы, на Беларусі шырокае распаўсюджанне мела ўяўленне, што, калі даць дзіцяці імя вядомых паблізу людзей з дрэннымі якасцямі характару — зладзеяў, п'яніц, гультаёў, — то і дзіця пяройме гэтыя ж рысы і маральныя якасці. У некаторых сем'ях імя для хлопчыка перадавалася з пакалення ў пакаленне. У мінулым стагоддзі маленькія дзеці часта паміралі, таму паступова ўзніклі спецыяльныя звычаі і абрадавыя дзеянні, якія выконваліся з мэтай увесці ў зман злыя сілы, каб яны не маглі пашкодзіць дзіцяці. Адказы бацькоў на пытанні старэйшых дзяцей, адкуль у іх з'явіўся брат (сястра) — «бусел прынёс», «у капусце знайшлі», — магчыма, выкліканы былі жаданнем паказаць, што гэта дзіця не іхняе, а знойдзенае. З гэтай жа мэтай дзіця да хрышчэння называлі ў беларусаў «лялечкай», «багданькай». Нованароджаным нашы не такія ўжо далёкія продкі ніколі не давалі імён раней памерлых дзяцей, баючыся, што іх напаткае той жа лёс. Сустракаліся выпадкі, калі давалі імя першага сустрэчнага чалавека, якога бацька нованароджанага чакаў, стоячы на перакрыжаванні дарог.

Бабка-павітуха выконвала не толькі, калі сказаць па-сучаснаму, акушэрскія і патранажныя функцыі, але і адыгрывала значную ролю пры імянарачэнні дзіцяці. Старыя людзі расказвалі так: «Бабка купляла белы хлеб і ішла да святара «па імя». Паздароўкаўшыся, казала: «Сцяпану (Кузьму, Івану і г. д.) Бог паслаў сына (дачку), прыйшла па імя». Святар чытаў малітву і даваў імя. Бабка вярталася да бацькоў, віншавала іх, аб'яўляла імя дзіцяці; калі ў хаце былі большыя дзеткі, бабка казала ім: «Я вам прынесла маленькага брацетку Васілька, глядзіце жалейце і любіце яго». Звычай несці падарунак свяшчэнніку, каб атрымаць імя, быў паўсюль распаўсюджаны на Беларусі. Часцей за ўсё кумы неслі хлеб, палатно, гарэлку, пазней — грошы. Потым падарункі сталі замяняцца адпрацоўкай з боку бацькоў пэўнай колькасці дзён у гаспадарцы святара, на полі або на сенакосе. Калі святар лічыў, што прынеслі невялікі падарунак, або пасварыўшыся з кім-небудзь, ён мог у гэтым выпадку даць дзіцяці нетрадыцыйнае ў дадзенай мясцовасці імя: Пілат, Ксенафонт, Кісар, Пуд, з уладальніка якога пасля кпілі.

Бабка магла і сама даць імя нованароджанаму. Калі яна купала дзіця першы раз, то па просьбе бацькоў ці па ўласнай ініцыятыве давала яму пэўнае імя. Кумы павінны былі ў гэтым выпадку ў царкве (касцёле) назваць дадзенае імя святару і ён, як правіла, згаджаўся. Здараліся тут часам і кур'ёзныя выпадкі. У адной вёсцы бабка-павітуха вельмі любіла імя Андрэй і імкнулася даць яго хлопчыкам як мага часцей, у другой бегалі па вуліцы аднагодкі — Аленкі ці Кацярынкі.

Незаконнанароджаным дзецям, ці, як іх звалі ў тагачаснай вёсцы, «байструкам», «бахурам», «крапіўнікам», часцей за ўсё давалі імёны Адам і Ева.

**Таццяна КУХАРОНАК.**

## Веснавы народны каляндар

У гэтым календары першая лічба азначае дату па новаму стылю, а другая — па старому (юліянскаму летазлічэнню, якім карыстаецца праваслаўная царква): 2/17 — 2 сакавіка па н. ст., 17 лютага па с. ст.; 14/1 — 14 сакавіка па н. ст.,1 сакавіка па с. ст. (29 лютага па с. ст. у высакосны год).

Назвы святаў і прысвяткаў, якія бытавалі ці бытуюць сярод праваслаўных беларусаў, выдзелены **паўтлустым шрыфтам,** а сярод католікаў-беларусаў — *курсівам.* Зорачкай (*) пазначаны святы і прысвяткі, якія пададзены адвольна, прыблізна, што залежаць ад месца Пасхі ў праваслаўным і каталіцкім «рухомых календарах». У дужках прыведзены назовы варыянтаў святаў у розных рэгіёнах.

### САКАВІК



* **Шыльны панядзелак** — першы дзень Вялікага посту. На Віцебшчыне раней у гэты дзень гулялі ў карчме, што называлася «каваць шыла».

* **Паласказуб (Пласказуб, панядзелак Пласказуб, Папалакіны)** — першы панядзелак Велікоднага посту (7 тыдняў). Найменне звязана з піццём гарэлкі (апошні дзень перад постам, калі яшчэ можна было хоць «папаласкаць зубы». Увесь пост царква не дазваляла есці мяса, піць малако, спяваць песні, танцаваць. У Слонімскім павеце хлопцы насілі ступу і складвалі туды розныя рэчы дзяўчат, якія не паспелі выйсці замуж. Дзяўчаты адкупліваліся, і ўсе разам гулялі. У розных раёнах Беларусі вешалі калодкі хлопцам, якія не ажаніліся. У ваколіцах Тыкцоіна і Бельска, на памежжы з Польшчай, мужчыны і жанчыны ў карчме скакалі цераз калоду, «каб лён быў высокі» і таўклі ў ступе ваду. На Свіслаччыне гэты дзень называўся **Паслязапусак**. Прызнавалася добрым пачаткам, калі першым у хату з раніцы заходзіў мужчына, а калі жанчына, то нібыта будуць развальвацца сыры.

Пост нарадзіўся ў Хрыстову пару, калі Выратавальнік знаходзіўся без ежы з малітвамі ў іўдзейскай пустыні. Цяпер ён разумеецца хрысціянамі не толькі як адмова ад скаромнай (жывёльнай) ежы, але як і духоўнае ўстрыманне ад дрэнных звычак. Ён рыхтуе чалавека да Светлага Хрыстова Уваскрэсення. Гэтаму садзейнічае і народная традыцыя.

**2/17. Дзень Фёдара Цірона.** Хрысціянскі велікамучанік Фёдар Цірон, воін з г. Амасіі, быў замучаны (спалены) Максіміянам каля 306 года за тое, што не адмовіўся ад Хрыста. Магчыма, зладзейства супраць чалавека аказала такое вялікае ўздзеянне на народ, што ў некаторых месцах Фёдара сталі лічыць заступнікам ад зладзейства.

***4/19.*** *Казімір (Казімер).* У некаторых валачобных песнях, зарыентаваных на каталіцкі каляндар, упамінаецца як «першае святца», г. зн. першы дзень земляробчага года (Новы год):

*Святы Казімір*
*Дровы сякець*
*І ў клад кладзець.*

У заходніх раёнах Беларусі вядома прымаўка: *«На Казімера зіма памірае».* У Свіслацкім раёне кажуць: *«Казімера – зіма ўмера», «Казімера дзень і ноч умера».* Відаць, не толькі памірае, але і «ў меру», калі маецца на ўвазе, што 20 ці 21 сакавіка бывае дзень веснавога раўнадзенства.

**Алесь Лозка.**

## ВІНШАВАННІ

***Шчырыя пажаданні здароўя, дабрабыту, шчасця, цеплыні і радасці з нагоды дня нараджэння жадаюць:***

**Уладзіміру Анатольевічу КІРЫЛЬЧЫКУ** з в. Сякерычы Клецкага раёна — сястра Валянціна з сям'ёй; **Зоі Мартынаўне БУЯКОВАЙ** — бацька, цётка Жэня з Галоўчыц; **Леакадзіі Чаславаўне САЛЬМАНОВІЧ** — бацькі, в. Ліпкі Астравецкага раёна; **Андрэю Сямёнавічу ДРЫКУ** — жонка, дзеці, г. Светлагорск; любаму ўнуку **Андрэю Уладзіміравічу КАЗАЧКУ** з г. Слуцка — дзед і бабуля Гамкі; **Марыне Тадэвушаўне ЛАНТАС** з в. Бruскаўшчына Маладзечанскага раёна — сям'я Лантасаў; **Марыі Іванаўне ВІТКО** з в. Янчукі Пастаўскага раёна — суседзі; дарагой унучцы **Аксане МЫСЛІВЕЦ** — дзядуля і бабуля Паўловічы з Ваўкавыска; **Леаніду Часлававічу КУЗМІЦКАМУ** з Мінска — бацькі, сёстры, браты з в. Ліпкі Астравецкага р-на; **Святлане ГАРАНОВІЧ** з пас. Ударны Нясвіжскага раёна — бацькі і Марына; **Уладзіміру Вікенцьевічу ГАРНАСТАЮ** з в. Кацельнікі — Мікалай, Тоня, г. Мінск.

## Усё пра ўсё

### Хочаш быць доўгажыхаром — завядзі больш сяброў

**Таварыскія людзі, у якіх шмат сяброў, знаёмых, жывуць намнога больш, чым адзінокія, сцвярджаюць фінскія псіхолагі.**

Яны даследавалі ўплыў розных абставінаў на працягласць жыцця, назіраючы некалькі гадоў за дзвюма тысячамі састарэлых людзей. І прыйшлі да высновы, што адзінота сапраўды скарачае жыццё. Тыя, хто задаволены адносінамі ў сям'і, удзельнічаюць у грамадскіх арганізацыях, дапамагаюць сябрам і атрымліваюць псіхалагічную падтрымку ад навакольных, жывуць даўжэй. Пры гэтым вельмі значным з'яўляецца сардэчнасць адносінаў, а не частата сустрэч з сябрамі.

### Агародніне мароз не страшны

Свежая агародніна больш карысная, чым замарожаная? Калі вы так лічыце, то памыляецеся: у замарожаным зялёным гарошку, напрыклад, вітаміну С на 20 працэнтаў больш, чым у свежым. Акрамя таго, перад замарозкай агародніна старанна мыецца, а значыць утрымлівае менш нітратаў.

### Спіце: будзеце здаровымі

**Сон непасрэдна звязаны з імуннай сістэмай арганізма, а недасыпанне пагражае знішчэннем імунных клетак крыві, сцвярджаюць медыкі.**

Групе здаровых людзей усяго на адну ноч удвая скарацілі час сну — і колькасць клетак, якія знішчаюць вірусную інфекцыю, знізілася на 30 працэнтаў. Такой яна і заставалася, пакуль даследуемыя не выспаліся як мае быць.

### Карысць і шкода антыбіётыкаў

**Многія людзі лічаць антыбіётыкі панацэяй ад усіх хвароб, іншыя ж не згаджаюцца прымаць іх наогул. Пры гэтым і тыя і другія не маюць рацыі. Што трэба ведаць пра антыбіётыкі?**

Антыбіётык знішчае бактэрыі, але бяссільны супраць вірусаў. Таму не будзе карысці ад лячэння імі, напрыклад, звычайнай віруснай прастуды.

Падабраць і выпісаць антыбіётык абавязкова павінен урач, таму што бактэрыі «разбіраюцца» ў іх і могуць ніяк не рэагаваць на ўздзеянне аднаго, але гінуць ад другога.

Курс лячэння антыбіётыкамі, назначаны ўрачом, неабходна прайсці поўнасцю. Антыбіётык павінен знішчыць бактэрыю, а не проста часова яе блакіраваць. Бывае так, што бактэрыі праяўляюць незвычайную стойкасць.

Антыбіётык можа выклікаць алергію. Калі на скуры з'явіліся высыпанні, неабходна адразу звярнуцца да ўрача, прыпыніць ужыванне лякарства і больш ніколі яго не піць.

Антыбіётык знішчае не толькі шкодную флору, але і карысныя бактэрыі, якія дапамагаюць пераўтраўліваць ежу. Таму нядзіўна, што пасля курса антыбіётыкаў можа забалець страўнік. Урачы раяць разам з імі піць біяёгурты, бо там ёсць бактэрыі, якія дапамогуць аднавіць страўнікава-кішачную флору.

*По матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.902. Індэкс 63850.
Зак. № 1152.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12